*Стэфан Марыян Растварoўскі*

**Успаміны з Мікашэвіч.**

*Пераклад з польскай мовы Панасюк Л.К.*

Аўтар прапанаванага вам расказу, *Стэфан Марыян Растварoўскі (1907-1981),* дачакаўся зусім нядаўна свайго жыццяапісання ў польскім біяграфічным слоўніку *(том XXXII, стар. 238-240):* нарадзіўся ў Кракаве, вучыўся ў школе г. Любліна, скончыў Вышэйшую Гандлёвую Школу ў Антверпене, па заканчэнню службы ў войску пачаў працу ў Польскім Прадстаўніцтве (Агенстве) Экспарту Драўніны на прадпрыемствах фірмы *"Агахель" і "Ольза"* на Палессі, ў павятовым мястэчку Мікашэвічы, выконваў абавязкі намесніка дырэктара не поўных два гады да пачатку вайны 1939 года.

Быў сведкам вераснёўскай кампаніі. У час акупацыі працаваў у лясной адміністрацыі ўласнасці ***Замойскіх,*** супрацоўнічаў (у гады вайны 1941-1945 гадоў) з *А.К. (Армія Краёва)* [1], некалькі месяцаў адбываў пакараннне за сабатаж у турме. У 1945-46 гадах прымаў удзел у тайнай арганізацыі *("W i N"— "Вольнасць і Незалежнасць")*[2]. Эмігрыраваў, жыў спачатку ў Бруселі, затым у Францыі. Заўжды працаваў ў лясніцтве. Пасля вайны ажаніўся, дзяцей, аднак, у яго не было. Памёр у Францыі.

Галоўнай пісьменніцкай зацікаўленнасцю яго сталі *геральдыка і генеялогія*, якія мелі дачыненне да роду Растварoўскіх, менавіта ім, Растварoўскім, ён прысвяціў манаграфію, у машынапісным варыянце. Апісаў таксама фрагменты ўспамінаў, адзін з іх атрымала рэдакцыя з прапановай публікацыі ад пляменніка і нашчадка памёршага, *Станіслава Яна Растварoўскага*.

Успаміны датычылі 1937-1939 гадоў, калі аўтар, у той час малады чалавек, займаў пэўнае становішча на вялікай фанернай фабрыцы, якая была ўласнасцю замежнага капіталу на Палессі, зусім блізка ад савецкай мяжы. Успаміны складаюцца з трох абасобленых тэкстаў. ***Першы*** з'яляецца асабістым, надзвычайна жыва апісаным успамінам. ***Другі*** ўключае экскурс, прысвечаны *"сацыяльным пытанням на Мікашэвіцкім буйным прадпрыемстве"*. ***Трэці*** ўключае тэхнічнае апісанне функцыянавання фабрыкі і не мае дачынення да

профілю нашага часопіса; апублікаваць яго згадзілася рэдакцыя квартальніка *„Гісторыі Навукі і Тэхнікі”.*

У рэтраспектыўных успамінах прафесіянальнага лесніка-эмігранта некалькіх перадваеннных месяцаў, праведзеных на мяжы Рэчы Паспалітай, у становішчы экспрапрыятара, ва ўмовах амаль каланіяльнага камфорту, што рабіла гэты адрэзак жыцця вельмі прывабным, гэта быў час моцных пачуццяў і асабістых поспехаў, зыходзячы з якіх ён мог адчуваць гонар за сябе. Не дзіва, што Растварoўскі распавядае аб той сваёй працы з энтузіязмам, не пазбаўленым пэўнай дозы самахвальства. Адзнаку апісваемых фактаў, у асаблівасці сацыяльнай палітыкі **фірмы *“Ольза”,*** — астаўляем магчымасць ацаніць прафесіянальным чытачам. Думаем, аднак, што і не прафесіяналаў таксама зацікавіць расповед аб малавядомых эпізодах сацыяльна-бытавога жыцця на ўсходніх крэсах Рэчы Паспалітай.

Рэдакцыя не ўносіла папраўкі ў тэкст, акрамя нязначных стылістычных правак. ***Stefan Kieniewicz / Стэфан Кеневіч /.***

**“ Фабрыка (дыкты фірмы „Ольза“) у Мікашэвічах**

У пачатку 1938 года падпісаў кантракт на прыняцце пасады намесніка генеральнага дырэктара **фірм *„Ольза“ і „Агехель“*** — двух акцыянерных таварыстваў (аб'яднанняў), ва ўласнасці якіх былі два абшары *(тэрыторыя, зона)* на Палессі і магутная фабрыка дыкты ў Мікашэвічах. Абедзве кампаніі з'яўляліся *сястрынскімі*. Іх падзел быў замацаваны польскімі законамі. „Ольза“ была кампаніяй дрэваапрацоўчай прамысловасці, *яе ўласнасцю была фабрыка дыкты ў Мікашэвічах, дзве лесапілкі, паркетная фабрыка, фабрыка брыкетаў (спецыяльнай цэглы з драўняных апілак і гліны), таксама сістэма чыгуначнага транспарту, чыгункі (працягласцю 27 км, верагодна, вузкакалейка Люшча–Навасёлкі-Чучавічы* ***і вузкакалейка на тэрыторыі фабрыкі Л.П.).***

***„Агахель“*** — кампанія, якая была ўласнікам маёмасці Мікашэвічы і Чучавічы на агульнай плошчы 110 000 гектараў. У склад іх надзвычай вялікіх тэрыторый уваходзілі асвоеныя (уключаныя ў гаспадарку) паласы лесу 70 000 гектараў, два фальваркі *(Грабов і Веліс 30 000 га),* таксама каля 40 000 панадпрыпяцкіх паплавоў, азёраў і балот, якія з'яўляліся часткай балота ***Грычын,*** большая частка якога належыла дзяржаве. Сам *Грычын* займаў

плошчу 85 000 га і распасціраўся на поўнач ад Прыпяці. На поўдні ад яе балота *Х(Г)ало* ляжала ва ўласнасці Давідгарадоцкай. Таварыства (аб'яднанне) валодала наступным:

1.Лясная гаспадарка падзелена на *11* лясніцтваў, займаецца: эксплуатацыяй — (распрацоўкай), пасадкай і вырошчваннем лесу.

2.Лугавая гаспадарка *(поплаў)* — мела асобнага адміністратара (кіраўніка), уключала 20 000 га сенакосных паплавоў, паступленні ў касу з іх былі вельмі значнымі.

3.Земляробчая гаспадарка (аграрная) — асобны адміністратар, два фальваркі на адлегласці 40 км. Яны пастаўлялі ўсе свае *„набыткі“* на патрэбы фабрыкі і рабочага пасёлка.

4.Адміністрацыя *(кіраўніцтва)* каналаў — „Агахель“ мела пад сваім кіраўніцтвам 750 км. уласнай сеткі каналаў, каля 40 шлюзаў. Арганізацыя сплаву лесу патрабавала вельмі спрактыкаванага кіраўніцтва і тэхнічнага нагляду.

5. Адміністрацыя ляснога промыслу — 24 смалярні, якія вырабляюць *дрэ(а)вяны вугаль,* скіпідар *(тарпатыну).*

Управа абодвух таварыстваў (аб'яднанняў) месцілася ў Мікашэвічах — астатняй пагранічнай чыгуначнай станцыі, на лініі Пінск-Гомель, у 3-х км ад мяжы з СССР, 12-і км на поўнач ад Прыпяці. Угоддзі *(уласныя)* „Агахель“ межаваліся на поўдні на працягу 21 км з *Уласнасцю Давід-Гарадоцкай*. Мяжой была сама рака Прыпяць. На поўначы межавалася з *Уласнасцю Нясвіжскай*. Там былі два суседа — два дзядзькі: *Х. Леон і Х. Кароль Радзівілы.*

Офіс абодвух таварыстваў знаходзіўся ў Варшаве. Галоўны, з погляду на ўсе справы да іх вырашэння ў Міністэрствах, у сувязі з экспартам, налогамі і г.д. А ў Антверпене знаходзіліся галоўныя Уласнікі тых таварыстваў, дзе *„Кампанія д'Ануас“* мела на руках большасць акцый (95%) „Ользы“ і „Агахелі“.

Кантракты падпісваліся ў Варшаве пры папярэдніх перамовах з генеральным дырэктарам у Мікашэвічах інжынерам Самуілам Гомбергам. Тут вымушаны акрэсліць яго вобраз. *Гэта быў чалавек, пра якога да канца жыцця зберагу найлепшую памяць, найбольшую павагу. Кожны дзень, праведзены з ім быў для мяне напоўнены вялікім сэнсам. (Я) так яму ўдзячны, пагэтаму і ўспаміны аб ім у мяне засталіся самыя прыемныя.*

*Самуіл Гомберг! Габрэй (яўрэй) — і то з Кіева. Знешні выгляд такі яўрэйскі, што ніхто не мог памыліцца — але тып „сухога яўрэя“ — шчуплы, з вялікім апушчаным носам і вушамі, адтапыранымі, як у афрыканскага слана, погляд, нязмерна мудры, пранікаючы, але добры. Быў падобны да міністра Бэцка, толькі ніжэйшы. Бегла размаўляў на польскім, расейскім, нямецкім, англійскім і французскім — усе мовы вельмі добра асвоены, але ўсе, без выключэння, з вялікім акцэнтам. Самуіл быў інжынер-механік-канструктар. Лічыўся адным з лепшых прафесіяналаў у Еўропе, магчыма, нават у свеце — па тэхналогіі апрацоўкі драўніны. У найбольшай ступені меў адміністрацыйныя здольнасці, а пры сваіх здольнасцях разумеў і другія гаспадарчыя працэсы: лясніцтва, земляробства, лугаводства і г.д. Вельмі добры* Настаўнік, Настаўнік *па прызванню. Быў хрышчоным пратэстантам. Знаў усе філасофіі, аднак быў паслядоўнікам святога Аўгуста і святога Томаша. Дыскусіі, якія праводзіў з Томэкам, маім братам-іезуітам, адбываліся на самых высокіх узроўнях. Томэк меў думку, што ў душы ён, у сваіх перакананнях, блізкі да каталіцызму, аднак не становіцца католікам толькі таму, што гэта магло здацца, як змена веры з-за кар'ерызму. Сам разумеў вельмі вялізнае значэнне каталіцызму на „крэсах („усходніх“ Л.П.)“ і ў Бельгіі дамогся фундацыі будаўніцтва касцёлаў (Леніна, Мікашэвічы, Сінкевічы), аплаціў са сваёй кішэні галоўны алтар у Мікашэвічах з разной разьбой Маткі Боскай. Пінскі біскуп Букраб так высока цаніў яго, што кожны год прыязджаў на два тыдні ў Мікашэвічы адпачываць да пана Гомберга. Сам чуў, калі біскуп гаварыў: „Люблю (паважаю) дырэктара, каб пан быў католікам, то ўжо даўно пану можна было б прысвоіць званне „Найлепшы Епіскап“.*

Гомберг быў жанаты на польскай армянцы, эмігрантцы з Туркестана, магаметанцы, якая таксама перайшла да пратэстантызму. Да асобы Гомберга я буду яшчэ вяртацца. Ён быў маім непасрэдным начальнікам. Па кантракту я меўся быць яго намеснікам і спадкаемцам, вядучым увесь бізнес у Мікашэвічах, таму што ён меў думку развіваць на працягу двух гадоў прадпрыемства, а потым пераехаць у Варшаву. Такой была галоўная ідэя. Акрамя вельмі шырокага кола зацікаўленнасці, атрымаў ад Гомберга вопыт незвычайна цікавы і павучальны, сістэму сваёй далейшай работы.

*Для чаго я быў патрэбен?*

— быў чалавекам, здольным абараняць і прадстаўляць інтарэсы прадпрыемства ў Еўропе  і нават у цэлым свеце  на прадмет экспарту дыкты на вельмі шырокіх прасторах.

— быў *„заўаднікам“,* ведаў розныя мовы, меў вопыт гандлю драўнінай і лесам, а таксама адміністрацыйны вопыт.

— быў добра вядомым у ваенным асяроддзі — у Галоўнай Ваеннай Інспекцыі карыстаўся даверам. Сумесная работа з імі магла быць абаюдна карыснай,

— быў незалежным ад існуючага рэжыму і не быў яго кар'ерыстам.

Гэта была ўмова, дзякуючы якой меў пэўную падтрымку Галоўнай Веннай Інспекцыі Узброенных Сіл і КАП (*Корпуса Аховы Памежнай). Неда*хопам, які я вельмі добра разумеў, было тое, што з'яўляўся *графам.* — Але з гэтым нічога не паробіш.

Спачатку Гомберг паставіў мне наступныя ўмовы: месяц я буду ў Варшаве, дзе ў канторы буду мець магчымасць знаёміцца з усімі актамі і дзелавымі паперамі і адначасова пазнаёміцца з ходам спраў ва ўпраўленні. Ніхто ў канторы не ведае, якую пасаду я займу, акрамя пракурора Давідоўскага, які схаваў кантракт сярод іншых дакументаў *(ён умее захоўваць тайну).* Праз месяц павінен прыехаць у Мікашэвічы, але і там не ведаюць, якую пасаду я буду мець(займу). Адкрыю дакументы на месцы.

Выслаў маёмасць (мэблю) з Катовіц у Мікашэвічы па чыгунцы багажом. Пасля месяца  працы ў Варшаве прыехаў з Метэкам (мой слуга) і „Роцекам“ — *(маім фокстэр'ерам)* у Мікашэвічы. Пасёлак уключаны ў маёмасць фірм „Ольза“ і „Агахель“. Вялізная фабрыка дыкты займала 80 га. — Будынак управы, дамы: дырэктара, службовыя, арцелі, некалькі кварталаў шырока разбудаваных  дамоў для жылля пастаянных рабочых, цудоўная школа (уласнасць фабрыкі), Народны Дом, дзе дэманстраваліся гукавыя кінафільмы, касцёл.

У пасёлку ўсё і ўсе аб усім ведалі, былі *„праінфармаваны“.* У гэта асяроддзе прыязджае новы кавалер з прыслугай, з мэбляй і атрымоўвае службовае жыллё на 3-ы пакоі (з усімі выгодамі: баня, электрычнасць, ацяпленне). Чуў, што гэта навіна падзейнічала *“як кій у мурашніку“*. Дырэктар паведаміў, што ў кошт умоўленай платы

(*1000 злотых кожны месяц*) магу, калі будзе патрэба, атрымліваць у касе патрэбныя сумы — касе рэкамендавана выплочваць пану *Р.,* колькі ён пажадае. Гэта для ўсіх выглядала вельмі таямніча, аднак быў папярэджаны, каб браў не вельмі многа грошай, бо памеры выплаты могуць адкрыць, якой пасадзе ў таварыстве гэта адпавядае. Дырэктар даў дазвол на бесперашкодны доступ „на фабрыку“ ў любы час, што адносна найстражайшым правілам фабрыкі было адразу прынята — *„як спецыяльная місія“.* Правілы, якія давалі допуск на тэрыторыю фабрыкі, былі вельмі строгімі з-за блізкасці дзяржаўнай мяжы, папярэджвалася магчымасць сабатажу, такія былі патрабаванні КАП — *(Корпуса Аховы Памежнай*).

У першы месяц атрымаў указанні: „*хадзіць усюды і паўсюдна і прыглядацца — асабліва да працы на фабрычных пляцоўках. Ніякіх рабочых гадзін, ніякіх абмежаванняў — як пану выпадае“.* Хадзіў, глядзеў, вучыўся, дапамагаў дырэктару. Пасля месяца такой работы дырэктар мне кажа: „*Пан Стэфан, кідаю пана ў глыбокія хвалі, няхай пан плыве сам. Заўтра пан прымае пасаду кіраўніка змены на месцы ідучага ў водпуск інжынера“.* Ужо „назаўтра“ прыняўся за адпаведную працу — фабрыка працавала ў тры змены. Тыдзень працаваў у першую змену *(ад 6-і ранку да 14-00 дня, наступны тыдзень ад 14-00 да 22-00* вечара), затым трэцяя змена *(ад 22-00 вечара да 6-00 ранку).* На фабрыцы працавала 160 рабочых: 60 — у І–ю змену; 60 — у ІІ-ю змену і 40 — у ІІІ-ю змену. За якасць прадукцыі нёс адказ кіраўнік змены і адным з іх быў я.

Гэтую работу выконваў два месяцы, а дырэктар у гэты час прыглядаўся да мяне. Людзі прывыклі да таго, што буду супрацоўнікам дырэкцыі фабрыкі… І вось новае пастанаўленне. “*Заўтра пан павінен будзе азнаёміцца з усёй экспартнай поштай у галоўным офісе (канторы), не перарываючы вывучэння фабрыкі”.* Была гэта справа, якую ведаў па сваёй адукацыі і шамтгадовай практыцы ў Гдыні і Гданьську. Праз месяц ведаў добра ўсе кантакты і карэспандэнцыі, якія прыходзілі з усяго свету на французскай, ангельскай і нямецкай мовах.

Вызывае мяне дырэктар і кажа: *”Ужо болей у таямніцы “гуляць” не будзем, пан павінен быць афіцыяльна прыняты на пэўную пасаду! Заўтра пан стане інспектарам эксплуатацыі лесу і аклад пана ўжо не будзе тайнай. Прапаную пану павышэнне да 1200*

*злотых”.* Гэта быў новы *”кій у мурашнік”.* Усе інжынеры і ўпраўленцы прывыклі да думкі, што буду “на фабрыцы”, аднак, аказалася — у галоўнай канторы фірмы “Ольза”. Зараз жа прагучала, што выплата мне «будзе праводзіцца з рахунку „Агахель“ і што я буду інспектаваць эксплуатацыю лесу. Усё вакол задрыжэла ад нечаканасці! І якая выплата! — Назаўтра з'явіўся ўказ дырэктара аб тым, каб я атрымаў у распараджэнне аўтамабіль (*Ford 8 V—1938 — Torpeda)* і шофера — неацанімага **ліцьвіна*-(беларуса), пана Харытановіча,*** таксама дом, які адпавядае рангу віцэ-дырэктара. Таго ж дня Метэк пачаў перасяляцца, а я разам з дырэктарам выехаў на агляд лесу і ўгоддзяў. Дзесяць дзён працягваліся аб’езды, мы “наязджалі” па 120 км у дзень, то на аўтамабілі, то на конях, наведвалі лясніцтвы, дзе знаёміліся з персаналам работнікаў і служачых. У вольны час мусілі знаёміцца з планамі ляснічых па эксплуатацыі лесу, умовамі працы рабочых, транспарту і г.д. — Аднак, не маглі ўхіляцца ад работы на фабрыцы. Кожны дзень вывучаў экспартную карэспандэнцыю (пошту).

Надыходзіў кастрычнік — пачатак зімовай эксплуатацыі лесу. Кастрычнік, лістапад, снежань — дзень у дзень ездзіў аўтамабілем, наведваў угоддзі, якія часта знахдзіліся больш як за 120 км ад Мікашэвіч. Маючы схільнасць да парадку ва ўсім, вымушаны быў усё запісваць, вучыўся правяраць і аддаваць распараджэнні, каб набыць сабе пэўны аўтарытэт. Дырэктар не толькі назіраў (за мной), але і кантраляваў. Два разы на месяц ён браў свой аўтамабіль і выязджаў разам са мной *“на тэрыторыі”.*

На Каляды — (Ражство Хрыстова) прыехала да мяне мама і хутка пасля святаў два браты — Томэк і Юрэк). Дырэктар, вяртаючыся разам са мной з лесу, кажа: “Пан Стэфан, з 6-га і па 16-е студзеня будзе (адкрыты) сезон палявання. Прашу прыгатаваць планы палявання. Будуць два бельгійцы, пасол Бельгіі ў Варшаве, інжынер Сасноўскі, стараста і другія. Чы мае пан стрэльбу?” Адказваю: “Пан дырэктар, планы я падрыхтую, але не хацеў бы ўдзельнічаць у паляванні!” — “Чаму?” — шчыра здзівіўся дырэктар. — “Не хачу, каб казалі, што прыехаў *граф*, заняў высокую пасаду і забаўляецца на паляванні, атрымоўваючы пры гэтым высокія выплаты.” — “Пан Стэфан, паважаю Вашу думку і пасаду, але Ваш удзел у паляванні — гэта безумоўны службовы абавязак. Пан павінен

ведаць лес. Акрамя таго, гэта адна з найлепшых аказій пазнаёміцца з персаналам ляснічых, леснікоў, гаёвых *(стражнікаў лесу, якіх было іх 267)*, з людзьмі, якія будуць удзельнічаць у загонах. Пан павінен пазнаёміцца з гасцямі, якія маюць пэўную ўладу і магчымасці, і даць ім магчымасць пазнаёміцца з Вамі. Гэта найлепшая аказія і абавязак *Пана".* Зразумела, што такая пастаноўка справы мне вельмі спадабалася. З вялікім энтузіязмам праз 10 дзён падрыхтаваў план палявання, карыстаючыся парадамі ляснічых і леснікоў. А потым прымаў гасцей. Мама была мне безадказнай памочніцай дома, адыгрываючы ролю гаспадыні. Адзін бельгіец, стараста і палкоўнік КАП жылі ў маім доме.

Цудоўнае паляванне, не хвалячы сябе, было добра арганізавана. За 10 дзён было застрэлена 57 дзікоў, 8 рысяў, 11 ваўкоў, 11 лісіц, некалькі зайцоў *(іх у нас было вельмі мала),* 1 казёл-рагач. Пазнаў бяскрайнія лясы цудоўнага Палесся. Распрацоўка *(эксплуатацыя)* лесу працягвалася далей. У лютым дырэктар даручыў мне ехаць у Варшаву на 10 дзён — выезд службовы, у нашу варшаўскую кантору. Грашовыя затраты на пражыванне ў Варшаве былі поўнасцю вернутыя.

Надыходзіла вясна. Эксплуатацыя лесу заканчвалася, звозка драўніны на ***біндзюгі*** (г.з. – *склады лесу на берагах рэк або каналаў)* была блізкая да завяршэння. Трэба было рыхтавацца да паводкі, да ледаходу і арганізацыі сплаву 240 000м$^3$ драўніны. Дырэктар даручыў мне распрацоўку плану сплаву. Адна з найцікавейшых прац, якая мяне вельмі захапляла. Патрэбна было скласці план вязання і чарговасці спуску на воду плытоў, іх сплаў і складзіраванне ў вялізных складах у Мікашэвічах. Складзіравалася драўніна ў чатыры пласты **з** плытоў, з улікам чарговасці выкарыстання яе як сыравіны. А далей патрэбна было ўлічыць запатрабаванні пэўных гатункаў дыкты: куды і ў якія тэрміны пастаўляць (у *Аргенціну, Англію, Швейцарыю, Індыю і Аўстралію)*, калі дыкта будзе гатова, а яшчэ ўлічыць, калі і якая драўніна як сырэц *(сыравіна для вытворчасці)* будзе патрэбна ?.

Яшчэ адна галаваломка: якімі каналамі і што ў першую чаргу павінна дайсці, як прапускаюць шлюзы? Як упраўляць запасамі вады ў час вясновай паводкі? У палавіне сакавіка пайшоў лёд. Дзень і ноч быў на тэрыторыі, на працягу дзвух тыдняў начаваў у леснічоўках, каб упраўляць сплавамі і рухам плытоў па ўсёй сетцы каналаў (750

км). Пачуццё, што такім вялікім працэсам упраўляю ***“Я”,*** было вельмі прыемным, я здаваўся сабе “дырыжорам” вялікага аркестра. Мой прынцып: *“трымаць руку на пульсе”*, назіраць, як мае ўласныя планы здзяйсняюцца ў пэўнай рабоце, ці ўсё, што задзейнічана ў работу – *“грае?.. ”* Меў ужо пэўны аўтарытэт, бо арганізацыя майго транспарту была дасканалай. У час падтапленняў мой рух на аўтамабілі быў абмежаваны, але па тэлефонных загадах былі гатовы коні, лодкі, даезды, так што *“даскочыць”* мог усюды, дзе, на маю думку, быў патрэбны. *“Гарадчукоўскія”* боты, зробленыя ў Давід-Гарадку, непрамакаемыя, давалі магчымасць хадзіць па вадзе. Сезон сплаву 1939 года быў спрыяльным, па меркаванню дырэктара, бо зіма была маласнежнай і запасы вады параўнаўча невялікія, але я змог іх удала выкарыстаць.

Толькі закончыўся сплаў — новая праблема: патрэбна прыступаць да працы на лясных пітомніках, да пасадкі лесу. Зноў планы, рапарты, выдзяленне лесу для фабрыкі ў Мікашэвічах і Чучавічах.

Квецень *(красавік)* — пара вясновага палявання. І зноў прыехалі госці, аднак іх не многа: сакратар бельгійскага пасольства, малодшы Антон Веняўскі. Ездзіў з імі на паляванне глушцоў, паляваў і сам. Здабылі тры вельмі добрых *“пеўнікаў глушцоў”,* а яшчэ некалькі цецерукоў. Якая чароўнасць гэтае паляванне! На цецерукоў палявалі з будак, на качароў — з *“крыкухай”.* Аднак усё гэта павінна было сумяшчацца з маёй галоўнай працай. У апошнія дні кветня дырэктар рэкамендуе мне больш часу прысвяціць фабрыцы і лесапілкам, якія цалкам працавалі на сплаўленай сыравіне.

Дзень мой упарадкаваўся. Мама прыехала да мяне на Вялікдзень і засталася да палавіны жніўня. Каля 7-і гадзін раніцы (Метэк, мой бясцэнны Метэк быў мне ўсім: слугой, поварам, агароднікам, кіроўцам-(вадзіцелем), займаўся з маім пёсікам, які звычайна ездзіў са мной, будзіў мяне, уключаючы радыё, паступова павялічваючы гук, *“каб пан граф не прачнуўся гвалтоўна”.* Праз пяць хвілін ён уваходзіў да мяне і дакладваў, што сняданак гатовы, і я ішоў да стала, дзе чакала мяне “кава з пенкай, да яе свежыя булачкі, вяндліна і другія “прысмакі”. Пасля снядання ванна, душ; адзенне і ўсё для брыцця было таксама прыгатавана (адзенне ў залежнасці ад планаў на дзень). Заходзіў да мамы на ”Дзень добры!” У восем, з

незвычайнай пунктуальнасцю, заязджаў *"пан Харытановіч"*. Сядаў у аўтамабіль, адзеты ў бурку, і выязджаў у лес. *Дубальтоўка са штуцарам* былі заўсёды са мной. Вадзіў аўтамабіль парою сам або Харытановіч, які вельмі ўмела вадзіў аўтамабіль па дарогах Палесся. У тыя часы не было ні аднаго кіламетра шашы *(у Лунінецкім павеце Л.П.)*. Па найбліжэйшай дарозе да Пінска — 125 кіламетраў.

Патрэбна было наведаць рубкі, біндзюгі *(склады драўніны на берагах рэк і каналаў),* пітомнік; пракантраліраваць лясніцтвы і леснікоў, паспець на шлюзы, праверыць узроўні вады. Да абеду ў лесе. Вяртаўся дадому ў 14-00 — пах лесу прыносіў з сабой, быў бадзёры, вясёлы, насычаны самой прыродай. У 14-00 — абед з мамаю, заўсёды закуска і штось для "разагрэву". Калі было цяпло, у маі, часам мама ехала са мною ў лес. Пасля абеду хвіліна *"для сябе"* і прачытанне пошты, газет. Дома быў да 16-00 і пасля чаю з мамусяй ішоў да галоўнай канторы.

Будынак управы вялікі, у канторы працуе 50 служачых. Меў свой кабінет, каля кабінету дырэктара. У кабінеце мяне чакала пошта для прагляду, 4-6 сумак замежнай карэспандэнцыі. Патрэбны быў вельмі хуткі прагляд і яе аналіз. Вызываў рэферэнтаў і даваў ім даручэнні, як адказаць на пэўныя запросы, астаўляў тое, што павінна вырашацца дырэктарам. Сакратарка, немаладая пані, якая добра валодала французскай, ангельскай і нямецкай мовамі, рабіла пісьмовыя паметкі па маім указанням. У 18-00 выходжу з галоўнай канторы і — *"на фабрыку"!* Тут таксама меў кабінет. Па чарзе выклікаю начальнікаў і масцераў участкаў, у пэўнай чарговасці выслухоўваю рапарты аб тым, як ідзе праца. Затым абходжу ўсю фабрыку, дзе *"Вока пана каня корміць"* — наведваю ўсе участкі. Фабрыка была вельмі добра распланавана, і плошча яе была вельмі велізарнай. Усюды прыемны знаёмы пах печанага хлеба, менавіта так пахне гарачая і распараная драўніна. Пасля абходу і ўпэўнення, што ўся прадукцыя "выходзіць", што нідзе няма накладак і "прастою", што сыравіна *(маецца на ўвазе дрэва)* на *лушчарнях* дае чаканыя гатункі дыкты, — вяртаюся да свайго кабінета і тут, як сапраўдныя шахматысты, распрацоўваем (сумесна з дырэктарам) план на бліжэйшыя 48 гадзін, прымаючы пад увагу сённяшні стан работы фабрыкі. Другі раз вызваныя начальнікі і масцеры атрымліваюць ад

нас распараджэнні, згодна з якімі яны павінны будуць працаваць бліжэйшыя двое сутак.

У гэтай рабоце былі вельмі прыемныя перапынкі! Сядзім з дырэктарам, масцерамі, інжынерамі пасля інструктажу. Дырэктар настойліва глядзіць праз акно і кажа: „Пан Стэфан, добрае надвор'е, *„скочым на бекасаў“* .— Тэлефонны званок у гараж і званок да Метэка, каб зараз жа прывёз дубальтоўку і патроны. Праз 10 хвілін аўтамабіль стаіць каля канторы, сядаем, выязджаем за 3-ы км ад Мікашэвіч на цудоўную *„цягу“* бекасаў. Застрэльваем па 2-3, змяркаецца, калі вяртаемся ў аўтамабіль; прайшло 45 хвілін, і мы зноў за працай у галоўнай канторы фабрыкі. У 19-30 прыносяць у кантору пошту. Адразу можа быць 3-5 сумак экспартнай карэспандэнцыі. Хутка праглядаю, падпісваю, упэўніваюся, што ўсе ўказанні прыняты да ўвагі.

У 20-00 я ўжо гатовы! Вяртаюся дамоў на вячэру. Мама чакае, вячэра пры свечах, бо інакш не можна! Нават калі быў сам, без мамы, на парозе мяне сустракаў Метэк, каля яго сядзеў *Роцек* (пёс), бо нельга было ўваходзіць у сталовы пакой падчас (??? . Пасля вячэры сядзім з мамай у кабінеце. Мама з работай, а я раскладваю пас'янс — радыё перадае прыемную музыку. Часам сядаю за напісанне пісем або за занятак, *маё хоббі — гісторыя і геральдыка,* якую я так люблю. Размаўляем, я малюю, уклейваю фотаздымкі — мама мне апавядае аб тым, што прачытала ў газетах і часопісах, бо сам я іх не паспеў перачытаць.

У 22-00 начная змена на фабрыцы. Гэта самы нервовы момант яе работы. Пасля дзённай змены на фабрыцы ўзнікаюць цяжкасці ў сувязі з тым, што фабрыка працу пры зменшанай колькасці рабочых, таму што ўчасткі, дзе працуюць жанчыны, прастойваюць. Значыць, іду на фабрыку і прысутнічаю пры пачатку змены, абыходжу фабрыку, спраўляюся, ці ведае кіраўнік змены, што рабіць і як думае тэхнічна выканаць усё гэта на практыцы. Гэта *(to le dernier coup de main du maitre)* перад адпачынкам. Звычайна, з дырэктарам у гэты час бываем на фабрыцы адначасова. Каля 23-00 вяртаюся дамоў — хвіліна размовы з мамай — і спаць, каб зноў у 7-00 раніцаю прачнуцца пад гукі радыё.

Такі быў дзень. І як добра мне было з усім тым. Колькі цікавай працы, колькі інтарэсаў!.. І лес, і прырода, і, нават, паляванне,

кантора, экспартныя кантакты з цэлым светам *(нярэдка тэлефонныя размовы з Варшавай, Антверпэнам ці Цюрыхам)* і работа на фабрыцы, поўная жыцця, заўзятасці (запалу) з адчуваннем сябе кіраўніком. Так было мне добра, кожны дзень быў такі цікавы і новы, што ў 1939 годзе не хацеў браць водпуск а пры тым, адносіны да мяне дырэктара былі вельмі прыемныя: заўжды мне гаварыў: “Няхай Пан працуе столькі, колькі Пану падабаецца, калі ў Пана забаліць галава або так штось занепакоіць, няхай Пан, наогул, адпачне. — Ведаю, што Пан тое адробіць, як будзе Пан *“у гуморы* – (у лепшым настроі)”. Аднак, пачуццё адказнасці не астаўляла для мяне  шмат вольнага часу.

У канцы мая 1939 года дырэктар нечакана вырашыў на месяц паехаць у Швейцарыю, Бельгію Англію. Вызваў мяне і кажа: „Прыймае пан фабрыку і месяц будзе ўпраўляць на ёй! Калі пан будзе *„тапіцца“,* то хай пан тэлеграфуе, вярнуся, каб ратаваць.  Будзем, аднак, на тэлефоннай сувязі“.

Прызнаюся, што гэты момант для мяне быў вельмі цяжкі. Першы раз у жыцці *(і маю надзею, што і апошні)* прайшоў праз пачуццё няўпэўненасці ў сабе. А ці змагу?.. Ці магу я браць на сябе цяпер такую вялікую адказнасць? Аднак выбару не было. Прасіў дырэктара, каб зразумеў маё становішча і заверыў, што буду рабіць усё, каб апраўдаць яго (давер) і спадзяванні. Быў чэрвень, пасадкі лесу закончаны, лес ужо не патрабаваў маіх частых выездаў, і я сам абмежаваў сябе адным выездам на тыдзень, гледзячы на гэты дзень, як на адпачынак. Увесь час прысвячаў фабрыцы і яе прадукцыі, а яшчэ рабоце ў *Галоўнай Канторы* з усёй поштай і замежнай карэспандэнцыяй.

Дырэктар выехаў! Застаўся адзін, маючы перад сабой  усю галоўную кантору, якая глядзела на мяне крытычным вокам і з зацікаўленнасцю, як я дам рады на фабрыцы з 11-цю інжынерамі, галоўным кіраўніком *(начальнікам)* фабрыкі ў адміністрацыі, у адміністрацыйным аддзеле фабрыкі, 3-мя начальнікамі змен і 150ю работнікамі. У такіх умовах час не іграў ролі — не было гадзіны, каб у думках я быў не на службе, стараўся так сябе арганізаваць, каб цяжкая праца не зламала мяне.

Прайшоў першы тыдзень і другі. Пастаянна аналізуючы, ці штонебудзь не ўпушчана, не знаходзіў грубых памылак. Тэлефонную

размову з дырэктарам меў кожны трэці дзень. Званкі ад яго паступаюць у 7-ай гадзіне вечара са Стакгольму, Копенгагена, Цюрыха, Бруселя і Лондана. Акрамя гэтага, кожны другі дзень з Антверпена, ад новых уласнікаў кампаніі, а з Варшаўскай канторай размаўляю кожны дзень. Па тэлефону атрымліваў указанні з цэлага свету: якія ўмовы і кантракты на дыкту патрэбна выканаць вельмі хутка, якія прытрымаць, якія прыспешыць. Напрыклад, у Аргенціну — самага вышэйшага гатунку, потым у Галандыю з такім жа класам якасці, а ў Новую Зеландыю, Індыю праз Швейцарыю. Усе гэтыя распараджэнні атрымоўваў сам у *„маё вуха“* — (па тэлефону) і трэба было зараз жа іх выконваць рашэннямі, якія прымаюцца на фабрыцы. Страху перад самастойным прыняццем рашэнняў не меў.

Невыказнае пачуццё, калі пры ўваходзе на тэрыторыю фабрыкі бачу, што вузкакалейка працуе, нешта па ёй едзе, рухаецца; тут бярвенні выцягваюцца з вады, там едуць ваганеткі да *пароўні,* кацельня працуе *(асобны будынак),* электрастанцыя *(асобны будынак)* шуміць — фабрыка ў поўным руху. Усе яе аддзелы дзейнічаюць: *лушчаркі*, ножніцы, механічныя сушылкі, машынны зал, швейныя майстэрні, аддзел *lamelek*, аддзел дыкты, прэсы, клеяркі, шліфяркі, сартавальні, аддзел упакоўкі, аддзел экспедыцыі — (*аддзел прадпрыемства для рассылкі выработленай прадукцыі)*, пагрузка вагонаў на экспарт. Усё працуе, працуе, як я хачу. Магу ў любую хвіліну сказаць: ”Стоп!” — і стануць цягнік, і шліфярні, і лушчаркі. Скажу: “Уключыць” — і ўсё будзе дзейнічаць (рабочы працэс прадоўжыцца). А мэта — узгадненне (зладжаннасць) работы абасобленых службаў, гэта работа, якая вядома толькі мне. Я ведаю, чаму выдаю тую ці іншую дырэктыву і выношу пэўную пастанову, бо толькі я атрымаў “на вуха!”, па тэлефону, поўныя ўказанні і рэкамендацыі ад дырэктара.Усе астатнія, увесь персанал фабрыкі ад інжынера да апошніх *хлопаў-палешукоў*, якія выцягаюць плыты, маюць вузкія рамкі сваёй працы, а намаганні ўсіх канцэнтруюцца цяпер маім усведамленнем, падпарадкоўваюцца маёй волі. Адчуваю небывалыя магчымасці для творчасці ў працэсе прыняцця рашэння і ўлады. Дырэктар так наладзіў работу, што дысцыпліна была незвычайнай, усё ішло гладка, акрамя невялікіх недаробак.

Аб ад’ездзе дырэктара, верагодна, усе ведалі, як ведалі і тое, што па яго волі я ўзяў кіраўніцтва фабрыкай у свае рукі. Усе глядзелі, як я

буду спраўляцца, і кожная дырэктыва ці загад выконваліся бездакорна, але, каб дзе наблыталі ў выпуску прадукцыі, усе ўбачылі б, які  спосаб выпраўлення памылак я б дакладна і хутка знайшоў бы.

Адчуванне вялікай адказнасці не давала мне (спакойна) спаць. Мой аўтарытэт павінен не толькі застацца, але і ўмацавацца яшчэ больш, нельга дапусціць магчымасці падарваць яго! Быў яшчэ малады! 31 год! Амаль усе інжынеры старэйшыя за мяне. Сто думак пралятала ў галаве, сто пытанняў шукалі адказаў і яснага прадуманага рашэння таго ці іншага пытання.

*

Дзяліўся думкамі з мамай, якая доўгі час была са мной і з'яўлялася мне вялікай маральнай апорай. — Метэк хадзіў ганарліва, бо *"яго граф"* цяпер галоўны чалавек у Мікашэвічах. Лічыў, што мы (гэта значыць *я і ён* ) павінны зараз быць адказнымі за ўсю фабрыку.

20-га чэрвеня, гарачы дзень, нават спякотны, паабедаўшы, сядзім з мамай у кабінеце, набліжаецца 2-я гадзіна дня. Змена пачынаецца з гудка фабрычнай сірэны. Сяджу за пісьмовым сталом , мама ў мяккім крэсле займаецца рукадзеллем — п'ем чорную каву. На фабрыку пайду праз гадзіну!

Гучыць сірэна — так! 14-00, гэта пачатак змены. Але што гэта? Гук сірэны паўтараецца другі, трэці, чацвёрты раз.. гэта вызаў на пажар! Крычу "Езус Марыя!" і вылятаю з дому. Мамуся падае на калені і моліцца. Пачуццё вялікай адказнасці апаноўвае мяне. Праношуся праз браму фабрыкі, пры ўваходзе дзяжурны мне дакладае, што на тэрыторыі фабрыкі нідзе дыму не заўважана. На пляцоўках у межах фабрыкі страшэнны рух. Фабрычная пажарная ахова запрагае коней і выязджае. Момант жахлівы!  Работніцы, якія закончылі, выходзяць з фабрыкі, ім цікава, як і тым, якія прыйшлі на змену, яны застаюцца на двары, і ім цікава ведаць *(што адбываецца?),* яны  проста назіраюць за ўсім, *"вылупіўшы вочы"*. Да мяне падлятае інжынер Чарняўскі і дакладае, што пажар (здарыўся) у рабочым пасёлку! Дзякуй Богу!.. Не на фабрыцы. Патрэбна авалодаць сітуацыяй. У адно імгненне ўскочыў на ваганетку з бярвеннямі і крыкнуў: "Зараз жа ўсім  па рабочых месцах!" Не ведаю, адкуль мой голас набраўся такой моцы, аднак (я ) авалодаў натоўпам людзей і, відавочна, меў такі выраз твару, што ўсе здзівіліся, глядзелі на мяне. Наступіла цішыня, і зараз жа кожны рушыў — адны на фабрыку

працаваць, другія на выйсце. Сітуацыя была пад кантролем. Рашучым крокам пайшоў да канторы. Хапаю тэлефон, размовы кароткія, пэўныя і зразумелыя: да гаражу: падаць зараз жа аўтамабіль. Да кіраўніка фабрычнай пажарнай стражы: зараз жа далажыць сітуацыю пасля даезду да месца пажару. Да канторы: усім быць на сваіх месцах і працаваць. Да мамы, каб супакоіць, што ўсё не так страшна. Аўтамабіль пад’ехаў, я кінуў вокам на фабрыку: работа *”ішла”* нармальна, магу ад’ехаць!.. Ускокваю ў аўтамабіль, гукам клаксана папярэджваю, каб адкрылі браму і дарога была свабоднай для праезду. Еду ў пасёлак. Недалёка ад касцёла сустракае мяне сувязны пажарнай стражы на ровары і дакладвае: „пан інспектар, гарaць хлявы у раёне (вуліцы) Т. Касцюшкі”. Уздыхаю з палёгкай! Толькі хлявы! Пажарныя зробяць усё, што патрэбна, без мяне. Вяртаюся на фабрыку. Праца ішла нармальна, *“на поўных парах”*.

У кабінеце стаў на калені перад Крыжам на сцяне і падзякаваў Богу. Сітуацыя не вельмі ўжо і цяжкая, але які нервовы стрэс! Якая ж адказнасць! — страта, дарэчы, аказалася, была малая, згарэлі два хлявы і адно парася.

У канцы чэрвеня вяртаецца дырэктар, трыццатага, раннім цягніком. Адчуў палёгку, але хвалююся — як усё ацэніць. Вітаецца са мной сардэчна, але неяк паспешна. — “Няхай пан працуе і не турбуецца!” — І пайшоў на фабрыку. Тры дні са мной не размаўляе, толькі ходзіць па фабрыцы, правярае, прыглядваецца, працуе над дырэктывамі ў Галоўнай Канторы. А мне не церпіцца ад цікавасці. Калі нічога не кажа, значыць, нічога кепскага не бачыць, хоць бы “нешта” паправіў. Нарэшце кажа мне: “Пан Стэфан, на фабрыцы ўсё добра, але калі ўсё так добра, то я здагадваюся, чым пан сабе памог: прадукцыйнасць сыравіны, відавочна, невялікая. Прадукыйнасць сыравіны — гэта была ацэнка таго, колькі м$^3$ бярвенняў выкарысталі, каб атрымаўся 1 м$^3$ гатовай дыкты. Норма, да якой мы імкнуліся, была 2,60, у некаторых месяцах была 2,65 — 2,70, а калі праца ішла “цяжка”, тады кіруючы дырэктар або я маглі распарадзіцца ўзяць у работу лепшы клас сыравіны, што, безумоўна, павялічвала прадукцыйнасць, але цаной ужывання сыравіны вышэйшага класу.

— “Думаю, што пан дырэктар памыляецца, бо кожны дзень правяраў сябе і, адпаведна маім падлікам і канчатковым падлікам навуковга аддзелу (*спецыяльны аддзел у фабрычнай канторы, дзе займаліся*

*статыстычнымі і лабараторнымі падлікамі),* павінны за гэты месяц укласціся ў норму 2,65!”

—“Паб’емся аб заклад, што пан памыляецца?”

—“Не, пан дырэктар, біцца аб заклад я не буду, пан дырэктар так ведае фабрыку, што заклад будзе не роўны, але хачу заўважыць, што, менавіта, у гэтай справе я не зрабіў памылак”.

—“Ну давайце закладземся на бутэльку віна!”

—“Не, пан дырэктар. Не магу”.

Мінае два дні. Дырэктар запрашае мяне разам з мамай на вячэру да сябе. Цёця Веня Каверска (маміна сястра) таксама з намі, а яшчэ стараста з Лунінца. Вячэра добрая: закускі, гарэлка, а затым цудоўнае меню. У канцы вячэры дырэктар устае і звяртаецца да мамы: “Графіня, заклаліся мы з панам Стэфанам на бутэльку віна — ён ведае, аб чым, — я гавару — з вялікай прыемнасцю я праіграў тую бутэльку, і няхай дазволіць графіня выпіць віно з тае бутэлькі за здароўе Пана Стэфана!” І (ўсім) падаюць шампанскае ў бакалах. Прызнаюся, што большага задавальнення ад такой пахвалы не мог мець за той месяц стараннай працы. Дарэчы, прадукцыйнасць была 2,62 !!!

Тады ж дырэктар паведаміў мне: ”Бачу, што пан не ўтапіўся без мяне, заўтра я выязджаю ў месячны водпуск” — і выехаў у Трускавец, а я цэлы ліпень кіраваў фабрыкай. Выплата мая павялічылася да 1500 злотых (у месяц).

*

У жніўні прыехаў Юрэк. Зрабілі з ім цудоўнае падарожжа. Паехалі аўтамабілем да Гаўрыльчыц, 120 км на поўнач ад Мікашэвіч, там прыгатаваны былі для нас лодкі, кожны меў сваю з хлопцам-весляром. На працягу трох дзён плылі па Лані і каналамі да Мікашэвіч, не бачачы ў гэты час нават людзей! Сапраўдныя афрыканскія джунглі — праз балоты, альховыя лясы, трыснягі — дзіч”

Пасля 15 жніўня мама выехала *(у Асмоліцы)* да Стадніцкіх, Юрэк — у полк, а я па службе, ў Варшаву, затым у Гдыню і Гданьск. Адтуль 24. VIII нечакана вярнуўся назад у Мікашэвічы, каб 31 жніўня быць мабілізаваным і 1 верасня паікнуў Мікашэвічы назаўсёды, астаўляючы дом, мэблю, адзенне, бібліятэку, сувеніры — усё, што было набыткам маёй працы за гэты час.

Па планам я павінен быў у кастрычніку 1939 года ехаць у Бельгію, Англію, каб пазнаёміцца з нашымі пакупнікамі; у лютым 1940 года — ў Швецыю. Філяндыю і Латвію для азнаямлення з прамысловасцю канкурэнтаў. Далей былі прадугледжаны мае замежныя выезды штогод у сакавіку і лістападзе. Намагаўся стаць членам Саюза Вытворцаў дыкты ў Польшчы як прадстаўнік фірмы “Ольза” і ад яе імя стаць раўнапраўным сярод старшынь гэтага Саюзу. Гэта давала магчымасць удзельнічаць у міжнародных кангрэсах, таргах, Гандлёвых Палатах, а праз Палаты выходзіць на Міністэрства Прамысловасці і Гандлю. Планы вялікія!

Вясной 1939 года бельгійцы прапанавалі мне *ажаніцца [Car vous comprenez qu’un “marita man” se comptetout autrement!]*. Запэўнілі, што пасля ўступлення ў шлюб атрымаю двайную штомесячную зарплату. Але, негледзячы на гэта, я да гэтай пары халасцяк, бо *ЦЯБЕ* яшчэ не спаткаў!

І ці ж кепска мне было ў Мікашэвічах?.. Працы многа і такой цікавай і прыемнай: прырода, паляване, цудоўныя жыллёвыя ўмовы, выдатная аплата, прыемныя ўзаемаадносіны з начальствам, задавальненне ацэнкай маіх дасягненняў, сувязь з цэлым светам, выезды за мяжу — шырокія перспектывы на будучыню. Заваёўваў *Свет* уласнай працай — і Свет мусіў быць маім! Бо (я) ведаў, што хацеў, і з поўнай яснасцю да таго імкнуўся. І як тут не быць аптымістам.

***Сацыяльная палітыка Мікашэвіцкага прадпрыемства.***

*Мікашэвіцкае прадпрыемства драўніны “Ольза”* — так гучала афіцыяльная назва фабрыкі дыкты, паркету і лесапілкі *(тартакі)* ў Мікашэвічах. Маючы намер заняць пост кіраўніка прадпрыемства, павінен быў, з дапамогай дырэктара, пазнаёміцца з усімі праблемамі фабрыкі і з сацыяльнымі праблемамі. Па прыродзе сваёй не меў схільнасці да вывучэння грамадска-сацыяльных пытанняў, аднак*, “па пасадзе”,* вымушаны быў тымі справамі займацца. Сацыяльныя пытанні цікавілі мяне перш за ўсё як начальніка. Ніякаму начальніку нельга быць абыякавым (раўнадушным) да клопатаў, патрэб і справядлівых памкненняў *(чаканняў)* падуладных людзей, да таго ж імкнуўся, перш за, ўсё да пазнання людзей і ўмоў іх працы, каб мець абаснаваныя меркаванні *(аргументы)* для прыняцця пастаноў, якія б адпавядалі запатрабаванням работнікаў. Асабіста магу сцвярджаць,

што маштабы, адносна якіх вырашаліся сацыяльныя праблемы на Мікашэвіцкім Прадпрыемстве, былі на самым высокім узроўні. Была то бясспрэчная заслуга непераўзыйдзенага інтэлігентнага і мудрага чалавека, якім з'яўляўся генеральны дырэктар Самуіл Гомберг.

Пачнём з высвятлення яго ўласных поглядаў на гэтыя пытанні. Гомберг быў рашучым праціўнікам якой бы там ні было «сацыялізацыі працы або прадрыемства». Лічыў, што капіталістычны лад жыцця самы здаровы, пры ўмове, што ў кабінетах кіраўнікоў сядзяць людзі разумныя і не настроеныя эгаістычна да таго капіталу (уласнасці), якой яны ўпраўляюць. Можа гэта тэорыя? Праціўнікі паставілі б пад сумненне такую пастанову справы. Але ўбачым, як С. Гомберг праводзіў у жыццё свае погляды, а я падтрымліваў яго ў меру свайго найлепшага разумення і найлепшай волі.

Дырэктар кіраваў фабрыкай ад пачатку, г.з. з 1928 года і сам яе разбудоўваў, пашыраў і развіваў. Вось чаму ён ведаў усё і ўсіх.

Уведзена было правіла, якога нідзе больш не сустракаў. Дырэктар асабіста прымаў усіх без выключэня ў сераду кожнага тыдня, пачынаючы з 16 гадзін — выключэнне было толькі, калі ён быў у ад'ездах *(аб гэтым усе ведалі).* Кожны работнік фабрыкі, лесапілкі, адміністрацыі лесу, уласнік якой-небудзь маёмасці, кіраўнік будаўнічай пляцоўкі, складу — меў права з'явіцца да дырэктара без фармальнасцей. Сустрэчы маглі праходзіць у якойсьці канцылярыі, канторы або на фабрыцы. Вядома, што патрэбна было гэта ў пэўнай меры арганізаваць, таму пасыльны дырэктара выдаваў нумаркі чарговасці, так што наведвальнік не павінен быў чакаць у чарзе, а адразу прыходзіў у прызначаны час. Правіла было, што дырэктар прымаў усіх без перапынку, незалежна ад таго, колькі гэта займала часу. Не раз серада была для дырэктара *„начной працай“.* Візіты заканчваліся ў 24-00 і нават у 1 *(першай)* гадзіне ночы. Вячэру на падносе своечасова прыносілі яму ў кантору, каб не перапыніць аўдыенцыі, каб ніхто яго не чакаў.

Такая сістэма ў атмасферы, якая панавала на фабрыцы, была збаўленнем. З аднаго боку, дырэктар ведаў усе тайны ўмоў працы, скаргі, просьбы, нараканні, з другой, дзякуючы такой сістэме, не ўзнікалі асабістыя сваркі і разлады, якія заўжды бываюць у такім людскім *зборышчы,* яны папярэджваліся раней, пры размове з дырэктарам, кожны масцер, кожны інжынер, чыноўнік ці галоўны

ляснічы ведаў, што можа пайсці непасрэдна да дырэктара са скаргай, або каб праясніць тую ці іншую сітуацыю.

Такая сістэма, дзякуючы мудрасці дырэктара, стварала атмасферу поўнга даверу яму. Прыходзілі да яго людзі з рознымі пытаннямі: каб параіцца, ці купляць карову, дзе навучаць сына; што рабіць, *„калі дачка згубіла нявіннасць“;* запрашалі на вяселле, хрысціны, прасілі аб павышэнні размераў пазычкі, дамаўляліся аб дровах для апалу ці павышэнні дзённай аплаты працы. На ўсе пытанні дырэктар меў аб'ектыўныя адказы, якія, пры неабходнасці, аргуменціраваліся пэўнымі пастановамі, якія шукаліся зараз жа па яго просьбе. Калі былі сумненні ў аб'ектыўнасці  і належыла ўдакладніць сітуацыю, размова адкладвалася да наступнай серады і ніяк не пазней.

Сістэма гэта была асноўным касцяком сацыяльных адносін на Мікашэвіцкіх прадпрыемствах. Прычым, яна (сістэма) прытрымлівалася пэўнай дэмакратыі: усёроўна, ці то інжынер, ці кіраўнік канторы, ці масцер, ці просты рабочы — усе прытрымліваліся прапанаванай загадзя, па запісу, чарговасці. У канцы чаргі чакалі рабочыя, уперамежку з масцерамі і чыноўнікамі. Зыходзячы з педагагічных поглядаў, дырэктар і мне прапанаваў рабіць заяўку „на сераду“ — чакаў, так, як і ўсе. Якая зайздросная мудрасць!  Усе, хто працаваў на фабрыцы, адчувалі сябе роўнымі ў правах і абавязках.

Пазней, натуральна, усё змянілася, дзесьці ў 1939 годзе. Звычайна дырэктар прасіў, каб я прысутнічаў пры тых аўдыенцыях (прыёмах). Мэта такога рашэння была двайной: па-першае, каб прывучыць усіх да таго, што ва ўсіх справах ёсць яго намеснік, а па другое, каб я быў дасведчаны аб *„балячках“* і патрэбах усіх работнікаў, а таксама з узнікаючымі ў сувязі з гэтым новымі рашэннямі дырэктара. Маючы такія непасрэдныя кантакты, дырэктар цалкам і глыбока ведаў свой персанал *„на памяць“*. Каб не перашкаджаць рабоце, як правіла, ніколі, акрамя серады, не прымаў па асабістых пытаннях, акрамя надзвычайных выпадкаў, гэта павінна было афіцыяльна зарэгістравана праз *„шэфа“* канцылярыі.

А цяпер, як вырашаліся праблемы рабочых, і наогул, усіх супрацоўнікаў?

*

## **Жыллёвыя праблемы.**

Амаль увесь пасёлак Мікашэвічы быў уласнасцю „Агахель“ і „Ользы“. Рабочыя і служачыя падзяляліся на некалькі катэгорый:

**1.** *Рабочыя,* якія паходзілі з блізкіх вёсак, мясцовыя палешукі, працавалі на самых простых работах: на пляцоўках, на лесапілках, каля дошак, бярвенняў, на сплаве лесу, у кацельнях. Жылі яны, у большасці, у сваіх хатах. Атрымлівалі надзел лесу, дзе здабывалі апал (дровы), *пашу* для кароў, першынство пры пакупцы дзялянак для касьбы сена па спецыяльнай цане. Атрымлівалі таксама, у большасці, электрычнае святло. Мы імкнуліся ўключыць найбліжэйшыя вёскі ў электрычную сетку, але гэта было яшчэ на ўзроўні толькі пачатку работы.

**2.** *Пастаянныя работнікі фабрыкі.* Нарміраванае забеспячэнне асобнымі  дамамі, або дамамі на две сям'і — было такіх дамоў больш за 300 — усе драўляныя, але атынкаваныя, з асобна пабудаванымі хлявамі, аборай, з агародам для ўласнага карыстання, 4-мя пладовымі дрэвамі. Было некалькі дамоў даўнейшай пабудовы на чатыры або восем сямей, але ў будучым яны прыназначаліся для разбору, па меры уводу будуючыхся дамоў пасёлка. Работнік атрымліваў паёк: апалу (дровы), надзел пашы на 1,5 каровы задарма, калі меў больш кароў, мусіў лішкі аплачваць дадаткова, лугавую дзялянку для касьбы сена за 20% ад кошту. І святло электрычнае — дарма.

**3.** *Супрацоўнікі,* пачынаючы ад масцераў, служачых канторы, інжынераў, экспедытараў і другіх працаўнікоў, атрымоўвалі жыллё ў мураваных дамах. План дамоў быў вельмі практычны**,** яны будаваліся па тыпу *“Швецкіх“*. Кожны з агародчыкам, дрывотняй і хлеўчыкам, без аборы і без права трымаць кароў. Быў цэлы мікраараён пляцаў, якія здаваліся ў арэнду на 99 гадоў *(у прыгранічнай паласе),* таму што прадаваць землі без дазволу вайсковых улад і іх індывідуальных распараджэнняў было забаронена. „Ольза“ давала вельмі вялікую дапамогу  для будавання ўласнага дома бярвеннямі, давалася фарба і бляха. Акрамя ўсяго, той, хто хацеў будавацца, мог узяць дом, напалову пабудаваны, дарам. Галоўнае было ў тым, каб заахвоціць работніка, тады ўся яго сям'я застанецца назаўсёды ў пасёлку, на сваёй „уласнасці“. Канечне, рашэнне аб атрыманні ўсіх гэтых выгод прымалася з улікам рэпутацыі работніка. Здольны работнік,

эканомны, беражлівы, з сям'ёй мог заўсёды спадзявацца на падтрымку і дапамогу. Усе атрымлівалі *паёк:* апалу, агароды і электрычнасць.

**4.** *Самай высокай, па рангу, была катэгорыя работнікаў*, у якую ўваходзілі: дырэктар, я, таксама звязаныя з фірмай „Ольза“, але ў другой форме: ксёндз, паліцыя, доктар, санітаркі, настаўнікі, каапэратары. Дырэктар і я мелі свае дамы. Дырэктар на восем пакояў, у мяне на чатыры пакоі *(баня, вестыбюль, рабочы кабінет і другія).* Меў свой агарод, атрымлівалі апалу, плату натурай, электрычнае асвятленне.

Вось так былі размешчаны ўсе. Была яшчэ адна катэгорыя жыхароў. Для халастых работнікаў быў пансіянат на 40 месцаў, па чатыры чалавекі ў пакоі, там была сталоўка, якая ўпраўлялася жанчынай, і ў пансіянаце за сталовую работнік плаціў 90 грошай! — *(сняданак, абед, падвячорак, вячэра).* Пансіянатам маглі карыстацца толькі хлопцы-халасцякі з добрай рэпутацыяй, служачыя іншых улад — (Войска Польскага, КОП, паліцыя, ксёндз.

*

Рабочыя стаўкі былі індывідуальнымі. Сістэма разлікаў была надзвычай складанай для калькулятараў і бухгалтэрыі, але гэтыя разлікі былі, бясспрэчна, вельмі справядлівымі.

а). Асаблівасці працы, заняткаў, катэгорыі ўмеласці *(кваліфікацыі)* вырашалі прынцыповыя памеры стаўкі, якая вагалася, ад 2 да 7 злотых за рабочы дзень.

б). Прэміі налічваліся за два тыдні або памесячна. Кожны аддзел фабрыкі меў прэмію за ўласную працу, а звыш таго, былі прэміі агульныя, яны называліся *„фабрычныя“.* Напрыклад, была прэмія за колькасць выробленай дыкты ў месяц, якая залежыла ад тэхналогіі вырабу: дыкта *„мокра-клееная“* і *„суха-клееная“.* (Тэндэнцыя разлікаў была ў тым, што мокра-клееная дыкта патрабавала меншых намаганняў). *„Фабрычная“* прэмія была для ўсіх і залежыла ад *„паказчыка прадукцыйнасці сыравіны“.* Калі ў даным месяцы паказчык быў нізкім *(менш драўніны патрацілася на выраб 1м$^3$ дыкты),* гэта значыла, што ўсе аддзелы працавалі ашчадна (эканомна), то рабочыя, масцеры і кіруючы персанал атрымлівалі дадатак. Адсюль і зацікаўленнасць у *(такой)* працы і адчуванне агульнай адказнасці. Рабочыя на *лушчарках (*галоўныя) атрымлівалі

прэмію, якая залежыла ад *„вышчарбленых ножніц“*, але ў адваротным напрамку.

в.) Работніку з найвышэйшай дзённай стаўкай выплачвалася прэмія ў 50 злотых штомесячна, ад якой за кожнае *„вышчарбленне“* вылічвалася 4 злотых. Аб'ява „Вышчарбленне“ кожны дзень паказвалася публічна на спецыяльным відным месцы, у аддзеле *„лушчарні“*. Кожны лушчар, уваходзячы на фабрыку, у першую чаргу глядзеў на гэтую аб'яву, як яго калегі з другіх змен сябе праявілі. Гэта падтрымлівала (сярод лушчароў) здаровую канкурэнцыю**.**

г.) Толькі дасведчанае кіраўніцтва робіць найбольш „здаровым“ становішча на прадпрыемстве. У Мікашэвічах выкарыстоўваўся прынцып: кавалер зарабляе на сябе, жанаты павінен зарабіць столькі, каб утрымоўваць жонку і дваіх дзяцей, за кожнае народжанае дзіця (сям'я) атрымлівала *прагрэсіўны* дадатак. Характэрным быў факт, што работнік *Лазарчук (просты, непісьменны),* 40 гадоў, які працаваў на абдзірцы кары з бярвенняў — работа простая, хаця і не лёгкая, меў 9 дзяцей, двое з якіх ужо працавалі на фабрыцы, атрымліваў аплату большую, чым вядомы і здольны, энергічны 24-гадовы масцер у аддзеле *„lamelek*“, але не жанаты. Дапамога, якая аказвалася галаве сям’і, выдавалася з фондаў фабрыкі.

1.Рабочыя некаторых аддзелаў атрымоўвалі дарам адзенне. Пры пагрузцы *камлёў* на склады — цёмна-сіняе адзенне, абшытае скурай на локцях, каленях і ягадзіцах, выдавалася праз кожныя два месяцы новае. Рабочыя, якія працавалі на склейцы, атрымлівалі аддзенне і гумовыя фартухі. Усе жанчыны і дзяўчаты атрымлівалі фартухі з рукавамі і белыя хусткі на галаву, якія былі абавязковымі ў час працы *(трэба сказаць, што выглядалі яны ў іх вельмі добра)*.

2. Усе работнікі фабрыкі мелі свае невялічкія шафы, каб павесіць там адзежу, палажыць сняданак ці падвячорак. Усе атрымлівалі праз кожныя два тыдні кавалак мыла для мыцця рук на фабрыцы. Нельга было та***е*** мыла выносіць дадому, да таго часу, пакуль не атрымаеш новы кавалак. І што гэта было за мыла!!! Кожны квартал *(усе)* атрымлівалі ручнік ва ўласнасць, яго можна было ўзяць дадому, калі атрымлівалі наступны, пры гэтым, новы, чысты — павінен быў аставацца на фабрыцы, а ранейшы мог быць забраны. На фабрыцы былі прыбіральні і вельмі добрыя ўмывальнікі для кожнага аддзела.

### *АГУЛЬНАЯ ДАПАМОГА ДЛЯ РАБОТНІКАЎ ФАБРЫКІ*

**1. Баня.** Вялізная паравая баня — тры разы на тыдзень для мужчын і тры дні для жанчын. Як мне расказваў дырэктар, ахвоты наведваць баню спачатку не было, патрэбна было ўгаварваць, страшыць, пагражаць, аказваць націск. Лазня была дарма, мыла дарма і ручнікі дарма! Дырэктар прыбягаў нават да публічнага асмяяння. Сустрэўшы якое-небудзь бруднае дзіця, браў яго на фабрыку і казаў яму зняць кашулю і такое бруднае дзіця вёў у аддзел, дзе працавалі жанчыны. Што то быў за сорам!.. Мэта. аднак, была дасягнута. У мой час лазня была ўжо *"святой справай",* дзе кожны, шануючы свой гонар, бываў (тут) хоць раз у тыдзень. У іншыя дні праз баню праходзіла да 500 чалавек. Чаргу там трымаць было ўжо цяжка.

**2. Памяшканне для мыцця бялізны.** Паколькі жылыя дамы (у асноўным) былі драўляныя, нікому не дазвалялася мыць бялізну ў доме. Галоўным довадам было тое, што лішняя вільгаць у доме шкодзіць здароў'ю. У памяшканні для мыцця бялізны стаяла 25 катлоў з кранамі, з кіпенем і халоднай вадой, было там і санітарна-тэхнічнае абсталяванне: балеі, выжымалкі, пральныя дошкі і г.д. Мыла для мыцця, парашкі, вада і апал, асвятленне — усё было таксама дарэмным. Былі тут прыстасаваныя сушылкі з гарачым паветрам. Жанчыны *(бабы)* прыносілі сваю бялізну, адзенне — пасцірае за тры гадзіны. Сушка працягвалася 30 хвілін, усё сухое забіралі дамоў. Такі спосаб прання выпадаў кожнай работніцы раз у два тыдні.

**3. Народны Дом.** ***(Дом Людовы).*** Вельмі прыгожы, зроблены з добрым густам будынак, меў вялікую тэатральна-танцавальную залу з эстрадай, сцэнай, кулісамі, там жа паказвалася кіно (дарэчы гукавое). Кіно паказвалася па аўторках, чацьвяргах, суботах і нядзелях. Фільмы арэндаваліся і паказваліся праз КАП. У зале праводзіліся пасяджэнні, урачыстасці, танцавальныя вечары і балы. Патрэбна было бачыць паводзіны работнікаў, чуць іх размовы і ўзаемаадносіны, яны былі на самым высокім узроўні. Не было п'яных, не ўзнікалі скандалы.

Акрамя ўсяго, была пажарная служба і служба парадку. Службы гэтыя складалі дужыя і вельмі прыстойныя хлопцы, якія таксама мелі зарплату і спецыяльныя даплаты да яе. Памятаю, як ад іскры ў шліфярні загарэўся драўняны пыл, што выдуваўся да эскалатарнай вежы. Агонь выбухнуў як запалка. Начная пажарная стража

патушыла пажар за 12 хвілін. Дырктар спагнаў ад страхавога агенства 3000 злотых. З іх за ўмеласць і аператыўнасць пажарная стража атрымала ад дырэктара па 100 злотых гатовых грошай. Гэта ў той час былі вялікія грошы! А фабрыка арганізавала спецыяльна танцавальны вечар для ўсіх, з бясплатным буфетам. Акрамя галоўнай залы ў Доме Людовым былі яшчэ тры малыя залы з часопісамі, іграмі *(шашкамі, шахматамі).* Радыё было ў вельмі багата аснашчанай літаратурай бібліятэцы. Кніжкі з бібліятэкі можна было браць чытаць дадому. Усё гэта было за кошт фабрыкі. ***Народны Дом*** стаяў насупраць касцёла і быў пад патранажам дырэктара, маім і парафіяльнага ксендза.

**4. Спецыяльнае забеспячэнне.** Аддзел, які можа зацікавіць кожнага. Апішу яго як можна больш дакладна, каб была зразумела яго ідэя, якая выражалася ў адказнасці за здаро'е і мараль усіх работнікаў.

Папярэдне скажу: дадатак, які атрымлівала сям'я, ствараў спрыяльныя ўмовы да яе павелічэння. Людзі бачылі — што факт цяжарнасці жонкі, гэта не няшчасце, і матэрыяльныя цяжкасці ў пэўнай меры будуць зняты з бацькоў. Прыгледзімся, аднак, якімі спосабамі асноўныя прынцыпы дырэктара праводзіліся ў жыццё.

Цяжарная жанчына павінна была зарэгістравацца ва ўрача-гінеколага, які ўтрымліваўся на *“спецыяльнай”* стаўцы фабрыкі. Увесь час цяжарнасці жанчына павінна была наведваць урача кожны тыдзень, інакш яна не атрымае пазней *„пасагу для дзіцяці“*. Калі яна працавала на фабрыцы, то за 6 тыдняў перад родамі ішла ў аплочваемы водпуск, які працягваўся яшчэ 2 месяцы пасля нараджэння дзіцяці. Роды не павінны былі адбывацца на даму. Быў спецыяльны *„радзільны дом“* — гінекалагічная бальніца пад наглядам доктара, двух акушэрак і шасці санітарак, усё за кошт фабрыкі. У 12 пакоях было 24 ложкі, зала для аперацый, прыхожая, дзе жанчыны чакалі прыёма. Адразу пасля родаў маці з дзіцём 2 тыдні знаходзілася ў бальніцы. Дзіця атрымлівала поўны дзіцячы *„пасаг“* ад фабрыкі на 50 злотых (перад вайной гэта таксама былі немалыя грошы, калі адна пялюшка (пялёнка) каштавала 80 грошай. У склад пасагу ўваходзіла ванначка для купання немаўляці. Першы год жыцця дзіця дарма атрымлівала з фабрычнай млячарні пастэрызаванае малако. Дзеці раслі. Затым ішлі ў фабрычны дзіцячы садок, які прызначаўся для дзяцей ад 3 да 8 гадоў. Быў гэта

сапраўдны рай для дзяцей. Дом вельмі чысты, у якім дзеці заставаліся цэлы дзень. Кошт ўтрымання дзіцячага садка пакрываўся з касы фабрыкі.

**5. Школа.** У Мікашэвічах быў цудоўны будынак школы. Двухпавярховы, мураваны, пабудаваны за кошт *(фірмы)* "Ольза" і быў яе ўласнасцю. Умяшчаў у сябе поўную ўсеагульную сямігадовую школу. Настаўніцкі персанал выдатны, таму што ўмовы для работы і жыцця настаўнікаў былі самымі лепшымі на ўсім Палессі. (Школа была дзяржаўнай). Падбор настаўнікаў уваходзіў у кампетэнцыю КАП, які меў права кожную хвіліну выселіць *"ненадзейнага элемента"* з прыгранічнай *(памежнай)* зоны. Фірма "Ольза" прымала галоўнае рашэнне, бо павінна была забяспечваць жыллём, апалам, электрычным святлом настаўнікаў. Не апошняе слова пры прыёме настаўнікаў меў таксама біскуп — (епіскап) Пінскі, з якім мы былі ў вельмі добрых адносінах. Найлепшыя настаўнікі як мага імкнуліся ў Мікашэвічы. Настаўнікі атрымлівалі нармальную дзяржаўную зарплату, а ад нас — добрае жыллё з агародам, электрычным святлом, дровамі для апалу *(дарма).* Акрамя таго, мелі доступ да культурнага жыцця: на месцы было кіно, радыё, чыгунка. Настаўнік мог уступаць у асабістыя кантакты з людзьмі. У школу хадзіла больш за 1 000 дзяцей. Усе школьныя прылады, алоўкі, пёрышкі, падручнікі і кнігі былі аплочаны фабрыкай. Дзеці атрымлівалі фартушкі *„задарма".* Закуп спортінвентара, навуковая дапамога — усе затраты на гэтыя мэты пакрываліся са спецыяльна прызначанага на гэта фонда фабрыкі.

Школа размяшчалася паблізу касцёла і Народнага Дома. Вельмі любіў хадзіць да школы і назіраць, як творча і мэтанакіравана фарміруецца свядомасць маладога пакалення. Напэўна дзесь, у далёкай Сібіры, дзе цяпер могуць жыць тыя дзеці, успамінаюць Польшчу і Мікашэвічы, як рай на зямлі. Колькі тых душ, калі яны ўратаваліся, прывязалася да Польшчы і да веры!..

Сямікласная школа закончана. Што рабіць з моладдзю? . І гэта было прадбачана ў мудрай галаве паважанага дырэктара. Пасля заканчэння адукацыі ў школе моладзь *(хлопцы і дзяўчаты)* маглі перайсці ў рамесніцкую школу. У Мікашэвічах, пры фабрыцы, была прамыслова-рамесніцкая школа. Але колькасць месцаў у ёй была агранічанай: 60 для хлопцаў, 60 для дзяўчат. Для хлопцаў ад 16 да 18

гадоў два аддзелы: дрэўна-сталярска-дыкцярскі і механічны. Хлопцы праходзілі практыку на фабрыцы *(за што атрымоўлівалі грошы)* ў паркетным цэху і на лесапілках, таксама ў лесе, пры яго эксплуатацыі — (распрацоўцы), дзе яны вучыліся на спецыяльнасць *“бракёра”*. У Польшчы бракёраў не хапала *(амаль што ўсе* брак**ё**ры *былі яўрэі)*. Была і механічная практыка на станках і на электрастанцыі.

Выкладалі тэорыю ў вучылішчы інжынеры з фабрыкі, а практыку праводзілі масцеры. На пастаянную працу ў вучылішча быў запрошаны кіраўнік і два яго намеснікі.

У сваю чаргу, для дзяўчат таксама былі два накірункі навучання: санітаркі, якія праходзілі практыку ў бальніцы і ў радзільным доме, і па другім напрамку — швачкі (партніхі), там рыхтавалі дзяўчат для работы па пашыву рабочага адзення для фабрыкі, пашыву спецяльнай формы для пажарнікаў і нават пашыў па індывідуальных заказах кліентаў.

Хлопцаў, якія атрымалі пасведчанні Мікашэвіцкага вучылішча, бралі *“на расхват”* усе фабрыкі дыкты ў Польшчы. Яны ўсе ўпэўнена рабілі свае кар’еры на такіх фабрыках. Найлепшыя з іх, вядома, заставаліся ў нас. Бывала, што хлопцы, якія паехалі на іншыя фабрыкі, вярталіся да нас, бо нідзе ім так добра не было!

Садзейнічалі мы і таму, каб тыя, хто заканчваў вучылішча (18 год) ішлі дабраахвотнікамі ў армію для адбыцця тэрміновай службы, так, каб маючы 20 гадоў, пачалі сваю кар’еру на фабрыцы.

*Вось такімі былі мае мілыя Мікашэвічы!*

Яшчэ адно. “Ольза”— сельскагаспадарчы аддзел, дзе важнае месца займалі *”агароды”*. Гэтыя службы павінны былі займацца упрыгожваннем фабрыкі. На тэрыторыі фабрыкі былі клумбы, рабаткі з прыгожымі кветкамі. На вокнах канторы і электрастанцыі раслі пеларгоніі; кветнікі перад галоўнай канторай, у агародчыку дырэктара, маім і ксяндза, вакол клуба для кіруючых работнікаў; там былі, дарэчы, абсталяваны месцы, дзе можна было загараць, павячэраць. Там жа знаходзіліся пакоі для прыезджых гасцей. Акрамя гэтага, адддзел “Агароды” меў заданне забяспечваць *(па самых нізкіх цэнах)* насеннем агароды работнікаў і расадай капусты і памідораў для ўсіх уласнікаў агародаў, работнікаў фабрыкі. Расада раздавалася дарма.

Вельмі важнай сацыяльнай установай была бальніца. У Мікашэвічах яна была невялікая, бо ў Пінску мелі цудоўную бальніцу страхавога Агенства, з якой была заключана дамова аб унясенні значных укладак *(грашовых)* “па страхоўцы”, каб нашы работнікі маглі карыстацца выдатнымі паслугамі гэтай бальніцы. У Мікашэвічах бальніца была невялікая, на 20 ложкаў, працавалі там два доктары і данціст, у добра аснашчаным кабінеце.

Нельга таксама не ўспомніць Кааператыў. Ён размяшчаўся ў вялікім мураваным будынку, які з’яўляўся ўласнасцю фірмы “Ольза”. Персанал кааператыву быў прафесіянальным, усе атрымлівалі зарплату, але жыллё атрымлівалі ад “Ользы” (дарэчы, дарма). Адсюль “удзячнасць” і “прыязнь” да нашага прадпрыемства. Кааператыў праводзіў вельмі разнастайную дзейнасць *[un grand magasine — у вялікім магазіне]* і, як была патрэба, заўжды мог разлічваць на фінансавую дапамогу з боку “Ользы”.

*

На заканчэнне гэтых успамінаў яшчэ два сюжэты (дзьве сітуацыі). Шчыра цікавіўся ўсімі з’явамі (падрабязнасцямі) жыцця рабочых. Меў такуюж рэпутацыю *(аўтарытэт)* сярод людзей, як і дырэктар. Якое гэта задавальненне!

Чэрвень 1939 года — дырэктар за граніцай. Паўната праў па кіраўніцтву фабрыкай у мяне. Раблю будзённы абход фабрыкі *(гэта рабілася не адзін раз на дзень)*. Затрымаўся пры палоснай піле, у аддзеле *(цэху)* lamelek. Цудоўная машына, вялікіх памераў. Працуе на ёй высокакваліфікаваны рабочы ***Лазарэнка***, мужчына каля 50 гадоў, з доўгімі вусамі, спакойны, не гаварлівы, але незвычайна старанны ў працы. Любіў машыну і ўтрымліваў яе ў такой чысціні, *як на караблі*. Усе часткі былі дагледжаны і блішчалі чысцінёй.

— “Ну, як Лазарэнка? Колькі блокаў сёння прашаравалі?”

— “Ідзе шаснаццаты, пан інспектар.”

— “Напэўна, замучыўся?”

— “Не, пан інспектар.”

— “Але нешта (Вас) засмучае — раскажыце шчыра.”

— “Праўду кажаце, пан інспектар — мне здаецца, што не ўсё ў парадку. Маю, такі, крыўду.”

— “Што? Якая крыўда? — Астанавіце машыну, бо нічога не чуваць!” Машына астанаўліваецца. Паглядзеў на мяне і кажа;

— “Але справа не вельмі спешная. Калі, пан інспектар, дазволіць, то пасля змены зайду ў кабінет, там і раскажу, а зараз шкада мне шаснаццатага блока”.

— “Добра, прыдзіце да мяне пасля змены ў 10-00 гадзін вечара.” Машына роўна запрацавала — шаснаццаты блок быў роўна ўзяты палоснай пілой.

Аказваецца, што перад працай  на палоснай піле на фабрыцы (ён) працаваў на лесапілцы, галоўным сарціравальшчыкам. І тут грошы  атрымліваў такія ж, што і на лесапілцы; з-за нейкіх фармальнасцей, ці па недагляду, (прозвішча) яго засталася ў разліковым лісце лесапілкі і зарплату атрымліваў з разліковага ліста лесапілкі.

—“Вялікай крыўды да нядаўняга часу не бачыў, але лесапілка на пэўны час становіцца. Тады сарціроўка на лесапілцы лічыцца працай больш лёгкай і аплата за яе зніжаецца на 12%.  У гэты час пілы вострацца і ачышчаюцца, але Лазарэнка ўжо не працуе на лесапілцы, а з яго зарплаты вылічваецца 12%, аднак там, тэарэтычна, лічыцца ў разліковым лісце.” Відавочна, што тут не ўсё ў парадку. Бяру тэлефон і званю бухгалтару па зарплаце дадому.

—“Ці маглі бы Вы зараз прыйсці на фабрыку?” Заўжды хацеў такія сітуацыі праясніць адразу. Праз некалькі хвілін прыходзіць бухгалтар Васілевіч. Пытаю яго па сутнасці гэтай справы. Так, сапраўды вылічэнні былі, бо гэта прадугледжана правіламі аплаты працы на лесапілках.

— “Але ж Лазарэнка не працуе ўжо  на лесапілцы, чаму ж ён мае меншы заработак?”

— „Але ж гэта рашэнне дырэктара!“ — Коратка перарываю яго, бо бачу, што вузкі бухгалтарскі розум не пераканаю.

— „Заўтра  (*субота — дзень выплаты*) выплаці пану Лазарэнку за яго работу так, як належыць,   па поўнай стаўцы!“

— „Я не ведаю, як выканаць загад пана інспектара?..“

— “Я таксама не ведаю, ведаю толькі, што гэта павінна быць папраўлена. З-за таго, што пан не ведае сваёй работы, чалавек атрымлівае не ўсю зарплату.”

— “Слухаю!..” — Праз два дні прыпамінаю гэты факт і прашу даць мне разліковы ліст лесапілкі, каб пераканацца, зыходзячы з якой стаўкі была налічана выплата Лазарэнку. Прыносяць мне. Бачу, што з

выплаты па ранейшаму ўтрымана 12 %. Прашу пазваць бухгалтара Васілевіча.

— “Чаму пан не зрабіў пераразлік Лазарэнку, так, як мы ўчора дамовіліся?”

—“Бо не ведаю, ці пан дырэктар адменіць сваё рашэнне і хачу дачакацца яго вяртання.” — Астаўляю ўсякую дыпламатыю і амаль крычу: “Я пану сказаў, што патрэбна зрабіць і гэта павінна быць выканана, далейшае ніякага дачынення да пана не мае. Я бяру адказнасць на сябе.” Сканфужаны Васілевіч выйшаў, выплаціў Лазарэнку, як я яму загадаў.

Вярнуўся дырэктар. Паміж іншымі справамі дакладваю яму аб сітуацыі з Лазарэнка. Слухае. А потым кажа: “Бачыце пан ніяк не мог уявіць, што інтэлект бухгалтара не можа стаць вышэй чынёнай крыўды? Немагчыма прадугледзець кожную сітуацыю. Пан правільна зрабіў.” І дырэктар выклівае Васілевіча.

— “За які перыяд пан выплаціў Лазарэнка поўную стаўку?”

— “То не я, пан дырэктар, то пан інспектар на ўласную адказнасць загадаўаў.”

— “Няхай пан адкажа на маё пытанне.”

— “За астатнія 10 дзён.”

— “А ранейшыя?”

— “На працягу шасці месяцаў за ўсе прастоі лесапілкі заўсёды адлічвалася 12 % з зарплаты.” (Гаворыць гэта з самахвальствам). Спакойным голасам дырэктар кажа:

— “Вазьмі, пан, усе разліковыя лісты, падлічы ўсе вылічэнні з зарплаты і сёння ж выплаці Лазарэнку за 6 месяцаў усе вылічаныя з яго грошы, — і тут дырэктар пераходзіць на крык: — “А надалей патрэбна працаваць, уключаючы галаву, на тое яна ў Вас на плячах і тырчыць, а не бязглуздна выконваць загады, не ўнікаючы ў іх сутнасць. І яшчэ: усе ўказанні пана інспектара павінны без спазнення, зараз жа выконвацца. Зразумела?!.”

Гэтая справа стала адразу ж вядома ўсім рабочым з найлепшай інтэрпрэтацыяй у маю карысць: інспектар абараняе рабочых!

*

— У лютым 1939 года звярнуўся да дырэктара з прапановай, каб устанавіць на тэрыторыі фабрыкі ***гавенне***[1] для інтэлігенцыі і

***місію***[2] для рабочых. Паглядзеў на мяне сваім мудрым позіркам і сказаў: “Пан Стэфан, дзякую, я і сам меў такую думку, але ініцыятывы, як некатолік, праяўляць не мог. Добра, няхай пан усё арганізуе. Пэўную падтрымку ад мяне будзе мець”. Паехаў да Пінску, і хоць гавенне арганізаваць не ўдалося, але сустракалі місію ад *ордэна Капуцынаў*.


ХХХ

На курсах Чырвонага крыжа ў Брэсце прайшлі месячнае навучанне тры прадстаўніцы Лунінеччыны.

Самым вялікім прамысловым прадпрыемствам на тэрыторыі Лунінецкага павета была Мікашэвіцкая фабрыка кардону і фанеры «Ольза». У цэхах клеяння фанеры, лушчэння шпона, эксплуатацыі і на паравой лесапільцы працавала звыш тысячы чалавек. Дырэкцыя фабрыкі арганізавала дзіцячыя яслі, дзе пад наглядам урача знаходзіліся дзеці фабрычных работніц. Іх утрыманне аплачвалася дырэкцыяй, сацыяльным страхаваннем і часткова — самімі бацькамі.

Усе 13 фанерных фабрык Палескага і Беластоцкага ваяводства вывозяць сваю прадукцыю за мяжу — у Англію, Галандыю, Германію, Егіпет, Грэцыю, Італію, Данію, Францыю, Афганістан, Чэхаславакію. У асноўным вывозяцца кардон і фанера, а Мікашэвіцкая фірма «Ольза», апрача гэтага, пастаўляе ў СССР і шэраг іншых краін авіяцыйную дэльта-фанеру, якую амаль не вырабляюць у Еўропе.

Гэта была праца над фарміраваннем у людзей пэўных пачуццяў да Польшчы, да роднага краю, да веры. Разумеў і прымаў думкі і ідэалогію майго начальніка, і, па меры магчымасцей, дапаўняў іх сваімі разуменнямі і пачуццямі. Адзінства і цэласнасць нашай працы — гэта было асяродкам нашага маральнага здароўя, асяродкам працы, аблагародненай добрай воляй і працай, якая была вельмі плённай. Такой хацеў бы бачыць усю Польшчу, хоць цяпер праца мая пралягае ў іншым напрамку — яна для Польшчы. Перакананы, што калі і надалей буду мець магчымасць уплываць на ход гісторыі, буду рабіць усё, каб будаваць будучую Польшчу. Ведаю, што ў мяне гэта атрымаецца і ведаю, чаму, бо я ўжо дабіваўся пэўнай мэты і маю вынікі сваіх дасягненняў. Гэта і ёсць крыніца майго яснага погляду ў будучыню!

[1]. ***Гавенне*** — ад дзеяслова “гавець ”, у веруючых пасціцца, хадзіць да царквы, рыхтавацца да споведзі і “*прычасця”*.

[2].***Міссі я*** — пасылка асоб, якія займаюцца распаўсюджваннем пэўных рэлігійных поглядаў сярод насельніцтва з другім веравызнаннем. У дадзеным выпадку, насаджэнне каталіцызму.

**Палессе перадваенных гадоў, раён Мікашэвіч  і мясцовай фабрыкі дыкты.**

“Прыехала перад Вялікаднем да Стэфана (сына) і застала на новым месцы жыхарства Стэфана перакапаныя і размечаныя градкі, узялася з яго дапамогай садзіць агароднiну, расаду бралі з фабрычных парнікоў на службе Стэфана. Наведала са Стэфанам фабрыку дыкты, дзе з цікавасцю назірала за працай новых машын, якія з вялікіх вольхавых камлёў высякалі вялікія драўляныя дошкі (пліты), укладваемыя рабочымі (адна на адну). Пакрывалі іх спецыяльным, прывезеным з-за мяжы клеемі памяшчалі іх пад вялікіх памераў прэс, адкуль выходзілі вялікія драўляныя *“мазуркі”,* якія яшчэ апрацоўваліся ўмацоўваючым сродкам, каб не разбураліся ад вільгаці і сушы, пасля чаго выконваліся заказы на дзьверы, рамы, паркет і г.д.

Маю ўвагу прыцягнула прысутнасць на станцыі двух служачых мытнікаў, адначасова ўбачыла, што на Мікашэвічах заканчваецца чыгуначны рух, *“жалезная заслона”* якраз у гэтым месцы аддзяляла (адгароджвала) Расію ад Польшы. Даведалася, што ў Мікашэвічы Англія прысылала драўніну разнастайных індыйскіх  (парод) дрэваў для пераапрацоўкі на дыкту, аднак польскія ўлады пільна сачылі, каб каштоўная дыкта не разыходзілася па Польшы, а ішла праз Гданьск, у Англію, як гатовы матэрыял для драўляных вырабаў – таму тут, на месцы, і спатрэбіліся польскія мытнікі. У вялікім памяшканні, запоўненым скрынямі, бачыла надпісы Бамбей, Калькута і другія.

Пагода спрыяла прагулкам, якія штодзённа са Стэфанам рабіла пад вечар. Гэтая частка Палесся носіць назву высокага Палесся і адзначаецца большай сонечнасцю; і на самай справе, у маё 4-ох месячнае пражыванне ў Мікашэвічах, не было дажджлівых дзён, часам *(былі)* кароткія пралётныя буры. Рабілі са Стэфанам пешыя прагулкі па лесе, які (рос) паблізу фабрыкі і быў  прадстаўлены рэдкалессем, у якім на больш высокіх месцах сустракаліся хаткі мясцовых палешукоў. Яны засявалі свае палеткі жытам і просам, тым не менш зімой і сюды даходзілі ваўкі і таксама здаралася,  што дзеці, ідучы з тых мясцін у школу, гінулі ад ваўкоў. Найбольш страшным быў воўк-адзінец, людзі якога называлі *“людаедам”;* аднойчы “пакаштаваўшы” чалавечыны, не здавальняўся жывёлінай і нападаў на адзінокіх дзяцей.

Часам, калі фабрычны аўтамабіль быў “вольны”, ездзілі са Стэфанам у паўночным напрамку, праз сапраўдную пушчу. Тэрыторыя, належачая фабрыцы, працягвалася ўздоўж ракі Лань на 125 км, а шырыня гэтай паласы была не меньш 40 км. Абшар, належачы фабрыцы, дасягаў *(плошчы)* 110 000 га. Тое, што ***Случ служыла граніцай,*** можна было ўбачыць за вузкай ракой, стан апусташэння краю на другім беразе, адкуль бальшавікі выселілі людзей у глыб Расіі, а застаўшыяся вёскі былі ў руінах. Палі, аднак, былі ўзараны і забаранаваны. Толькі на некалькі кіламетрў стаялі бальшавіцкія вышкі заставаў *(пагранічныя і назіральныя).* На той прасторы знаходзілася вялікае балота *“Грычын”,* якое займала ў шырыню каля 25 км., пранізанае каналам, у які па вёснах сцякала са многіх ручаін вада. Асабіста не бачыла тое балота, але Стэфан, які спачатку павінен быў пазнаёміцца з тапаграфіяй мясцовасці, казаў мне, што прастора балота цягнецца (аж) да самага гарызонту і падобна як-бы на зялёную раўніну, без ніводнага кусточка, не бачна і не чуваць птушак, толькі раі аваднёў, мух і камароў, ад якіх патрэбна было адмахвацца, ідучы пешшу, праз грэблі, якія месцамі перарывалі тую зялёную раўніну. Толькі зімой гэтая прастора замярзала і пакрывалася снегам; тады сяляне з рэдкіх прыбярэжных паселішч адпраўляліся з саначкамі, запрэжанымі адным конікам, да павятовага мястэчка Лунінец за неабходнымі закупкамі або да доктара, але то была рызыкоўная язда, амаль кожны год здараліся выпадкі, што такі-та (нейкі) селянін правальваўся разам з санямі і канём у незамерзлыя *“пажарышчы”* і прападаў бясследна. Мне расказвалі, што аднойчы праз гэтую снежную пустыню адзін селянін адправіўся пехатою да Лунінца, аднак па дарозе назад яго застала завея, (ён) заблудзіўся, а мароз утварыў на паверхні снега наст. Селянін, аднак, працягваў ісці далей, урэшце дайшоў да вёскі, пры гэтым патрапаў не толькі лапці, а нават здзёр цела на нагах да касцей.

Спытала ў шофера, ці ёсць тут вужы? “О, ёсць, — але найгоршы то той, што доіць каровы”. “Як то доіць?” — “а так, у мяне была карова, пачала хварэць, худзела, ніякія зёлкі не дапамагалі, але стары сусед сказаў, што вуж ёсць, пэўна, у гнаі, я рассмяяўся, аднак стары настойваў, каб выкінуць гной, пачаў выкідваць і знайшоў *“распашанага”* вужа, каторага канечне, забіў. Ён кожны вечар, калі было ціха, выпаўзаў, абвіваўся вакол нагі і сасаў вымя, з-за гэтага

карова схудзела, бо ён выдойваў малако, а яна кожны вечар баялася таго “візіта” — падобнае гэтаму там здаралася часта. Часам трапляўся вялікі вуж, бірузовага колеру, не ядавіты, але гэта рэдка.

Недалёка ад вялікага балота “Грычын”, у разгалінаванні дзікай і разлітай Лані, у вольхавых багнах знаходзіўся так званы *“Заказнік”*. Была то прастора вольхавых лясоў, атачоная рэчышчамі Лані, багнамі і дрыгвою. “Заказнік” меў плошчу 9000 гектараў і ляжаў паза ўсякімі дарогамі і нават сцежкамі. Прастора гэтая, па тлумачэнню, была як рэзерват у стане некранутай забалочанай пушчы. Прынятая назва “Заказнік”была даведзена да ведама жыхароў вёсак, найбліжэйшая аддаленнасць — 15 км. Забарона наведвання гэтага рэзервату датычылася нават лясной службы. Рэзерват той быў праўдзівым *Міцкевічаўскім гадавальнікам*. Тут вадзіліся пастаянна, адзіныя на прасторы Польшы, ***мядзведзі нізінныя,*** памерам да 2 метраў у стаячым стане, якія адрозніваюцца ад **малых бурых мядзведзяў карпацкіх.** Палешукі ахоўвалі ад іх свае вялікія вуллі, размяшчаючы іх высока на разгалінаванні вялікіх дубоў або сосен, будуючы пад імі шырокі квадратны насціл, моцна падпёрты бярвеннямі, праз якія мядзведзь не мог пранікнуць, царапаючыся ўздоўж ствала. Палешукі ахоўвалі свае вуллі і забабонамі папярэджваючы, што калі нехта пасмее парушыць вулле і ўкрадзе мёд, таго напаткае няшчасце, хвароба, каўтун, а некаторых і смерць. Гэтыя забабоны прыйшлі ад часоў *“паганскіх”,* а калі здараўся крадзёж вулля, то (казалі) зрабіў гэта “не тутэйшы” чалавек. Дзіўныя ўражанні мелі тыя лясы, багны і ўрочышчы на асоб, любячыч мнагалюддзе і шум горада, рух вуліц, бляск “неонаў” і пацеху начных забаў. Тая цішыня здалася б ім манатоннай і нуднай, бо не ўсе ўмелі б яны адчуць і зразумець мову цішы, лесу і скрытага ў ёй цікавага жыцця прыроды. Чаму гэтая частка Палесся была балоцістай?.. Яшчэ з царскіх часоў былі спробы асушэння таго мокрага Палесся, капалі каналы, але яны не асушылі моцна забалочаных частак пушчы, калі-нікалі дрэнаж пападаў на магутныя пліты граніту, месцамі нават базальту, так званая *“чарнаморская пліта”* становіцца як бы магутным “тазам”, робіць немагчымым адток вод, якія пераўтвараюць прастору ў балота і ў так званыя *“бяздонныя бочкі”,* пакрытыя *“здрадлівым мохам”* або нізкімі хмызнякамі. Геолагі і інжынеры, нават замежныя, даследвалі не раз наша Палессе, канстатавалі, што можна, коштам мільярдаў,

пралажыць каналы, якія б “здрэнавалі” рэчкі і ручаі, напраўляючы іх воды прыродным схілам праз Прыпяць да Дняпра. Аднак інжынерныя планы трапілі на адпор ваенных уладаў, ахоўваючых нашу ўсходнюю мяжу, яны *(якія)* лічылі, што палеская багна з’яўляецца прыроднай лініяй абароны **.**

**“Echa Polesija” №1.2011г. Тэрэза (з Фудакоўскіх) Раствароўска**





Spław drewna na Słuczy. Flisacy w budzie retmańskiej
*fot. Stanisław Dworakowski*

***PODLASKI KWARTALNIK KULTURALNY*** Часопіс №3/2007
*Пераклад з польскай мовы Панасюка І.А. 2013 год.*

**Норберт Баратын (Варшава).**

**“Справа дырэктара фірмы “Агахель” і “Ольза” у Мікашэвічах на Палессі інжынера Самуіла Гомберга.”**

Постаць Самуіла Гомберга непарыўна звязана з Палескім ваяводствам, хаця да 1914 года на самой справе ён з’яўляўся грамадзянінам Аўстра-Венгрыі. Як падаецца, хрышчоны быў у чэрвені 1914 года ў Відні, у евангельска-аўгсбургскім касцёле, калі яму было ўжо больш за 10 гадоў. Верагодна, габрэй (яўрэй) аўстрыйскага паходжання, сям’я якога перад 1-й Сусветнай вайной перайшла ў лютэранскую веру (прыняла лютэранства). Ён мог перад 1914 годам быць і другой веры — *юдаізму* ці *мазаізму*. У 1926 годзе стаў дырэктарам фірмы ў Мікашэвічах. Зыходзячы з не вельмі дасведчаных дадзеных, радня яго паходзіць з Ведня(і).

Справа Самуіла Гомберга з’явілася на стыку 1937-1938 года. Ён лічыць, што стаў ахвярай розных крыватолкаў і паклёпаў, якія разносіліся людзьмі канкурыруючых фірм і не толькі. Ва ўсякім разе, яго асобай зацікавілася Міністэрства Унутраных спраў, з прычыны яго частых паездак за мяжу. Гэта выклікала таксама падазрэнне і ў паліцыі, нібыта ён выязджаў за мяжу не толькі па справах фірмы…

Больш праясняе справу аб дзейнасці С. Гомберга яго ліст ад 17 лютага 1938 года, напісаны на імя старасты Мікашэвіч. Ён скардзіцца ў лісце на сітуацыю, у якой апынуўся. Свае довады пачаў з сцвярджэння, што ў час звяртання да Мікашэвіцкіх памежнікаў, па прычыне выдачы яму пасведчання аб заканчэнні курсаў 2-й ступені (6 лютага 1938 года), стараста падкрэсліў важнае значэнне С. Гомберга ўператварэнні *“невядомай палескай вёскі ў прамысловы і культурны цэнтр”*. С. Гомберга падзякаваў старасту за жаданую падтрымку, якую яму аказвалі мясцовыя ўлады на працягу 15 гадоў яго працы. (Ён) пералічыў у тым ліку чыгуначных старастаў, камандаванне батальёнамі Войска Польскага, афіцэраў Войска Польскага, з якімі супрацоўнічаў не толькі над культурным развіццём Мікашэвіч, а і ў цэлым усяго павету. У далейшых радках ліста С. Гомберга падышоў да сутнасці справы *(звароту),* так званай, скаргі на непрыемнасці і

цяжкасці, з якімі *(ён)* сутыкаўся ў час працы ў Мікашэвічах. Скардзіўся, што на працягу 12 год "быў моцна *(маральна)* знішчаны спосабамі, далёкімі ад усялякіх прынцыпаў аб'ектывізму, этыкі, справядлівасці і гуманізму". Ліст гэты напісаны на падставе дайшоўшых да яго слухаў. С. Гомберг адзначае, што зведаў асаблівыя цяжкасці сітуацыі і тым больш, што ніколі і нідзе не выступаў супраць і ў сувязі з гэтым з'яўляецца (цяпер) зусім безабаронным.

Інжынер С. Гомберг інфармаваў старасту, што "на працягу 12 год працуе з *"прыклееным ярлыком"* камуніста, міжнароднага шпіёна, спрытнага махляра, якому наданы таямнічы характар. Напраўленыя супраць яго (Самуіла Гомберга) усе, не выбіраючы сродкаў, стараліся рабіць так, каб *легенда* дасягнула найвышэйшых структур адміністрацыі дзяржавы і войска. Падкрэсліў, што накіраваная супраць яго акцыя нарастала прама прапарцыянальна таму, як прадпрыемства, якім ён кіраваў, развівалася, а людзі Мікашэвіцкага павету жылі ва ўмовах пастаяннага паляпшэння дабрабыту. Звярнуў таксама ўвагу на вялікае значэнне ўсялякіх бытавых "установ" агульнага карыстання ў Мікашэвічах, якія асабіста арганізаваў, дзякуючы дапамозе персаналу яго прадпрыемства і (прадпрымальнікаў). С. Гомберг, аднак, зазначае, што яго нябачныя ворагі абараняюць свае тэзісы. *І гэта нягледзячы на будаўніцтва Дома Нарадовага імя маршалка Пільсудскага, будаўніцтва касцёла прыходу рымска-каталіцкага, арганізацыю бібліятэкі-чытальні, курсы (па вывучэнню польскай мовы для дарослых), адкрыццё працоўных месцаў, танных кааператураў, выкананне тэхнічных, санітарна-гігіенічных мер на прадпрыемствах, зберажэння дрэваў і зямлі на месцах новабудоўляў, касцёлаў і Дамоў Людовых, школ у Леніна, Сінкевічах, Мілевічах і Пясчаніках. Багатыя ахвяраванні на розныя мэты з уласных сродкаў дырэктара Гомберга. Былі здзейснены шырокія задумкі разам з адміністрацыйнымі ўладамі, з рэгулярнымі часцямі Войска Польскага, у тым ліку дапамога галадаючым дзецям.* Аднак усё гэта прадстаўляецца *(у слухах, чутках),* як вымысел для легенды аб паншчыне, аб эксплуатацыі, прыгнёце і праследваннях работнікаў і насельніцтва. І выканаўцам усяго гэтага з'яўляецца С. Гомберг.

У далейшай частцы ліста *(да старасты)* С. Г. падкрэслівае, што кожная яго акцыя не мае мэтаю пагаршэнне дабрабыту працаўнікоў,

пагаршэнне выхавання і замацавання ў іх паняццяў абывацеляў, што гэта з’яўляецца крыніцамі пагалоскаў скрытых мэтаў і нібыта злых намераў Гомберга. А таксама зазначае, што (ён) і не ведае ўсіх абвінавачванняў, накіраваных супраць яго. Ён можа ў поўнай меры толькі ўявіць сабе карціну сітуацыі.

*Першым* і найважнейшым абвінавачваннем супраць С. Гомберга была чутка, што ён *(нібыта)* прыбыў у Польшчу ў 1922 ці то 1923 годзе з Германіі, прычым, як бы будучы бальшавіцкім агентам. У тым месцы паясняецца, што ён прыбыў у Польшчу як *“уцякач”* з Расіі (перайшоў мяжу ў Астрогу на Валыні 11 мая1922 года; зарэгістраваны ў дакуменце *“перабежчыкаў”* у старастве горада Астрога 12 мая 1922 года (справа) за №1. poz. 685), чаму адпавядае і што пацвярджае гэтая справа.

*Другое* абвінавачванне супраць С. Гомберга звязана з чуткамі, што нібыта ў Расіі ён прыняў праваслаўную веру, а ў Польшчы прыняў другім разам лютэранства. У сваім (жа) лісце ён інфармаваў (старасту Мікашэвіч *І.П.*), што ніколі не пераходзіў у праваслаўную веру і што  застаецца хрышчоным з чэрвеня месяца 1914 года ў г. Відні, у евангельска-аўгсбургскім касцёле, што і занатавана ў метрыцы.

*Трэцяе* абвінавачванне, на якое (Самуіл) жаліўся ў сваім лісце, было прыпісванне яго да *камуністаў*, падчас знаходжання ў Расіі *(прыкладна 1921 год).* С. Гомберга называе гэта гнуснай хлуснёй, сказаўшы, што ў кастрычніку 1917 года была забіта яго сястра, а ў студзені 1919 года быў забіты яго бацька. Абараняючыся, Гомберг інфармаваў, што яго жыццё ў Расіі, між іншым, у перыяд кастрычніцкай рэвалюцыі, прынесла яму толькі няшчасці. Аб гэтых фактах добра вядома знакамітым антыбальшавіцкім *дзеячам Дзмітрыю Філосафаву*, які ў 1920 годзе пражываў у Польшчы *(Отвок — санаторый Віктараўка),* прафесару *Д. Адзінцову* і яшчэ некаторым другім вядомым дзеячам. А калі справа тычыцца пражывання ў Польшчы, то яго жыццё і праца добра вядомы ўсім, у тым ліку і камандаванню батальёнамі ў Лунінецкім павеце, яго ведалі як  выдатнага  гаспадарчага дзеяча, напрыклад, старшыня Віленскага Гандлёва-Прамысловага Дому — Р. Рыцінскі, старшыня Польска-Бельгійскага Дому — Антоній Віняўскі, старшыня Почты і Тэлеграфа — Эрык Будзінскі, а таксама многія другія вядомыя людзі.

*Чацвёртае* абвінавачванне, якое прад’яўлялася супраць С. Гомберга, былі яго частыя выезды па “таямнічых” справах у Берлін. Самуіл тлумачыць гэта неабходнасцю складання штогадовых справаздачаў Н. Геллераву, які з’яўляўся да 1930 года старшынёю праўлення кампаніі. Звыш таго, у той сітуацыі, на працягу развіцця прадпрыемства — (фабрыкі фанеры ў Мікашэвічах) машыны закупаліся таксама ў Германіі, дакладней, у фірм Флека, Зімпелькампа і Бекера і ў кампаніі фон Хуэллена. Нічога не было дзіўнага, што дырэктар С. Гомберг павінен быў ездзіць туды, каб знаёміцца з новымі канструкцыямі *(тэхналогіямі),* заключаць кантракты як кіраўнік прадпрыемства, працуючага большай часткай на экспарт, таксама павінен быў бываць за мяжой. С. Гомберг інфармаваў старасту, што аб яго жыцці па-за мяжой Польшчы падрабязную інфармацыю можа даць непасрэдны дырэктар прадпрымальнікаў у Мікашэвічах — Чарльз Дэльбеке, у якога звычайна, пад час прабывання ў Бельгіі, ён пражываў, з якім таксама бываў *(пазней)* у Вялікабрытаніі і Галандыі.

*Пятым* абвінавачваннем было тое, што нібыта С. Гомберг даваў працу шматлікім праваслаўным і яўрэям *(іудзеям).* Інжынер тут жа інфарміруе, што з моманту яго ўступлення на пасаду кіраўніцтва прадпрымальніцтва ў Мікашэвічах (1926 год) ён застаў мізэрную лічбу католікаў, затое пераважную лічбу *расіян і яўрэяў*. Колькасць работнікаў, лічбаю прыкладна 250 асобаў, былі з мясцовага насельніцтва, веры праваслаўнай. Пасля рэарганізацыі, якая адбылася ў 1938 годзе, у фірмах, кіруемых С Гомбергам, заняты персанал прадстаўляў сабой наступнае: “Агахель” — 37 працаўнікоў, сярод якіх 19-католікаў, 5-евангелістаў, 6-праваслаўных і 7 яўрэяў-(веры іудзейскай); ”Ольза” — 40 працаўнікоў, у тым ліку 25-католікаў, 10-праваслаўных і 5-яўрэяў. Усё аб’яднанне налічвала 900 працаўнікоў (рабочых), палавіна з якіх былі католікі, каля другой палавіны — праваслаўныя і мізэрная колькасць яўрэяў. Масцерамі, большай часткай, былі католікі. Калі зыходзіць з лясной аховы, ніжэйшы персанал паступова змяняўся. Асноўны элемент праваслаўных складала мясцовае насельніцтва, католікі былі запрошаны сюды з другіх рэгіёнаў Польшчы, дакладней, з Познаньскага, Кангрэсоўскага, Малапольскага і Віленшчыны.

С. Гомберг паведаміў таксама (яшчэ), што ў 1926 годзе на тэрыторыях яго прадпрыемстваў дамініравала *расейская мова*. У 1938 годзе праблемы (моўнай І.П.) падобнай не існавала, што з’явілася *“эфектыўным вынікам працы курсаў польскай мовы для дарослых”*. Дзейнічалі *яны* (курсы) *з мэтай паланізацыі* калектыва працаўнікоў старэйшага пакалення, *маладзь жа на той час ужо была паланізавана.* Так С. Гомберг даведаўся аб чарговым сфальсіфіцыраваным абвінавачванні. ***Наспявае пытанне: ці ж былі ў тых фірмах заняты працай*** **<u>прадстаўнікі беларускай нацыянальнасці?..</u>** *Аб гэтым С. Гомберг нічога не піша…*

У далейшай частцы свайго ліста Гомберг апісвае канкрэтныя дзеянні, якія былі напраўлены не толькі супраць яго асабіста, але таксама супраць яго як дырэктара прадпрыемства. На яго думку, усё гэта падымалася прадстаўнікамі канкурыруючых фірм. *(Яны выбралі форму арганізаваных праследванняў, а калі не, то найлепш было не даваць пакою дырэктару і прадпрымальнікам, кіруючым імі; калі толькі не праз канкурэнцыю, то праз людзей, якіх, нібыта, Гомберг нейкім чынам падверг небяспецы).* Пішучы аб канкрэтыцы, інфарміруе, што калі ў 1925 годзе, будучы запрошаным да адміністрыравання работ пры пабудове будынка КАП *(Корпуса Аховы Памежнай),* на стыку мяжы Лунінецкага павету — мяжы Рэчы Паспалітай з СССР, у той рабоце прымала ўдзел таксама фірма “Залескі і Рэпухаў”. Калі яна прайграла таргі (відавочна, *тэндар*), адзін з яе кіраўнікоў, прадстаўнік Расійскай меншасці *(Рэпухаў)* напісаў данос на С. Гомберга і яго фірму. Калі С. Гомберг аб гэтым даведаўся, ён звярнуўся з просьбай да тагачаснага заступніка-старасты пасёлка Мікашэвічы аб правядзенні расследвання (даносу). Стараста адказаў, што расследванне гэтай справы можа быць праведзена ў тым выпадку, калі гэта быў так званы сфальсіфікаваны *“брудны данос”* і расследванне ў такім разе павінна быць праведзена паліцэйскімі ўладамі.

*Другая,* падобнага тыпу, справа была звязана з нейкай асобай — Яшчыкоўскім. Карацей кажучы, па аб’ектыўнасці становішча дырэктара прадпрыемстваў ”Агахель” і “Ольза” ***С.А.*** ў Мікашэвічах, нібыта з-за С. Гомберга, як інфармаваў сам С. Гомберг старасце, калі ён толькі стаў дырэктарам, то адразу ж прыступіў да энергічнай чысткі тых, хто супрацьстаяў рознага роду злоўжыванням.

(С.Гомберг) матывававаў гэта тым, што здабыў інфармацыю аб парушэнні закона (тых) паставак з добрымі гандлёвымі звычаямі. І іменна ў тыя часы нехта *“чыркануў”* у лісце-дастаўцы жыхара Лунінца, нейкага Яшчыкоўскага, які займаўся пастаўкамі дроту і (чыгуначных) рэльсаў. Па адказу з ліста, нібыта Яшчыкоўскі шматразова напамінаў аб тым, каб быў прызнаны яго заказ на пастаўку метала. Калі атрымаў катэгарычную адмову, шчыра расказаў, што быў гатовы за адказ гэтай адмовы *“добра аддзячыць”*. Як піша С. Гомберг, вынік той пагрозы не патрэбілася доўга чакаць. У кастрычніку 1926 года Яшчыкоўскі разам са сваімі супрацоўнікамі *Ерышавым і Кандрацюком* напісалі на С. Гомберга данос. Яны даносілі, нібыта 4 жніўня 1925 года (Гомберг) прывёз на сваім аўтамабілі да Саветаў (СССР) збеглага з акружнога суда Варшавы камуніста Ляшчынскага.

У лісце да старасты Гомберг піша, што пракуратура акружнога суда ў горадзе Пінску, у сваёй пастанове ад 12 жніўня 1926 года, вынесла рашэнне лічыць беспадстаўным той данос (вышэй напісаны Яшчыкоўскім і іжэ з ім). Пракуратура засведчыла таксама, што факт абвінавачвання яго ў нібыта скрытным прывозе камуніста Ляшчынскага ў СССР ёсць беспадстаўны, так як у гэты час ён, С. Гомберг, ляжаў цяжка хворы ў Варшаве. Гэтаму ёсць пісьмовае пацверджанне ад старшага ардынатара шпіталя імя маршалка Пільсудскага ў Варшаве.

*Трэцяй* падобнай гісторыяй, як падкрэслівае С. Гомберг, з’яўляецца праследванне яго з прычыны ўласнай непрыязні былога кіраўніка Пункта ў Лахве *Зімера* (які надзяляў сваіх падначаленых адпаведнымі інструкцыямі ў яго адрас). Пазней ён быў зволены з Войска Польскага. Аб гэтым ён паведаміў старасце, дадаўшы, што повады тых абвінавачванняў яго вядомы тагачаснаму камандзіру брыгады Войска Польскага палкоўніку Вжолінскаму і камандзіру батальёна Войска Польскага ў Сінкевічах падпалкоўніку Богуславу Кунцові. Аднак Гомберг не прадаставіў (старасце), якога тыпу абвінавачванне яму ўмянялася. Напісаў адзінае, што ў выніку (яго) абвінавачвання ў некаторых дзяржаўных установах з’явіліся справы, якія як цень праследвалі С. Гомберга, стваралі вакол дырэктара фірм “Агахель”і “Ольза” атмасферу недаверу і сумненняў, аб чым асабіста гаварылі С. Гомбергу паслы і сенатары Рэспублікі Польшча падчас іх

сустрэчы ў Мікашэвічах 7 мая 1937 года. Гомберг, па справе таго абвінавачвання, накіраваў заяву на імя дырэктара Штаба Корпуса Аховы Памежнай у Варшаве маёра Манушэўскага, які яму адказаў, што на падобныя выпадкі не патрэбна звяртаць асаблівай увагі.

Самуіл Гомберг інфармаваў таксама, што часамі мела месца *"стварэнне рэпутацыі"*, якая (раз ад разу) ўзмацнялася. Акрамя гэтага, палескі ваявода дэ Траммекурт двойчы наведаў прадпрыемства і падрабязна азнаёміўся з яго дзейнасцю. Палескі ваявода быў інфармаваны меркаваннямі С. Гомберга аб ананімных нападках, накіраваных супраць *(яго, С.Г.)* невядомымі асобамі. Аднак (ваявода) выступіў за ўзнагароду яго (Гомберга) *"Залатым Крыжам Заслуг",* аб чым быў паведамлены падчас аўдыенцыі 30 жніўня 1937 года.

У канцы ліста (да старасты) С. Гомберг напісаў, што ат***а***кі на яго працягваюцца. Калі (С.Г.) звольніў двух інжынераў, якія на працягу месяца *"руйнавалі"* сістэматычна прадпрыемства, то тут жа былі пушчаны пагалоскі, што (С.Г.) з'яўляецца прадстаўнікам і саўладальнікам пэўнага бельгійскага прадпрыемства, нейкага Пірард'а, займаючагася атрыманнем дыкты з СССР. Як напісаў Самуіл Гомберг, Пірард сапраўды быў уласнікам фабрыкі дыкты ў Бельгіі, аднак ён прадстаўляў *"смяртэльную канкурэнцыю"* Мікашэвіцкаму прадпрыемству. З пачатку 1937 года ён вымушаны быў весці з ім вайну аб атрыманні "Агахелі" і "Ользы", між іншым, карыстаўся дапамогай польскага пасольства ў Бруселі. С. Гомберг жаліўся, што гэтыя яго ачарненні не ўзялі пад увагу як факт і што адзін са звольненых інжынераў дабіваўся выезда ў Бельгію з мэтай уладкавання на працу да Пірард'а або да яго (Гомберга) чарговага канкурэнта, нейкага дэ Коўэн'а, з намерамі *(відавочна, выдаць гаспадарчыя сакрэты арганізацыі працы на мікашэвіцкай фабрыцы),* працу на якой з найвялікшымі цяжкасцямі ствараў на працягу 12 гадоў. Гомберг падкрэсліў, што яго абавязкам было патлумачыць мікашэвіцкаму старасце, што ён адпрацаваў на прадпрыемсте 15 год, зрабіўшы яго адным з найважнейшых і найлепш арганізаваных прадпрыемстваў дыктавай прамысловасці ў Еўропе, як з тэхнічнага боку, так і сацыяльнага. Заўважае таксама, што гэта могуць пацьвердзіць і гаспадарчыя ўлады. У канцавой частцы ліста пажадаў

старасце здаоў’я, выразіў спадзяванні на дапамогу мясцовых улад у вырашэнні яго штодзённых клопатаў.

З ліста С.Гомберга вынікае, што ён быў вельмі добрым прадпрымальнікам і бізнесменам. Апрача таго, яго фірмы належаць да замежнага капіталу, але ён працуе і на карысць польскай дзяржавы, дбае таксама і аб працаўніках (прадпрыемстваў). Аднак, апынуўся ахвярай у спіску канкурэнцыі (з-за) звальнення недабрасумленных працаўнікоў, як і роўна некаторых тых “вайсковых афіцэраў”, якія паверылі ў тое, што (Самуіл Гомберг), відавочна, асоба падазроная. У выніку яго справа трапіла ў Міністэрства Унутраных спраў *(МУС).* З таго, што напісалі прадстаўнікі Міністэрства, вынікае, што (там) хутчэй за ўсё давалі больш веры *“антыгомбергскім пагалоскам”. А* можа ў тых пагалосках было сапраўды нешта такое, калі так хутка адрэагавалі ўлады?.. А можа спрыялі негатыўныя стаўленні да (асобы) С. Гомберга ў “вышэйшых інстанцыях”, таму і складаліся на месцы *“легенды”* аб мікашэвіцкім прадпрыемстве, а ўлады гэтаму верылі. Гэта цяжка адназначна ацаніць. Ва ўсякім разе, Галоўны Штаб Войска Польскага быў зацікаўлены ў прыніжэнні (ролі І.П.) фірм ”Агахель” і “Ольза” С.А. перад Цэнтральным Прамысловым Округам. Вось некалькі лістоў з грыфам *“сакрэтна”* з *[Archiwum Akt Nowych (dalej) Ministerstwo Spraw Wewnetrznych (MSP) 1083(Doplyw) 69—76 s.7.—* з архіваў] **4.**

*Адказ*
*Варшава, 8 ліпеня 1938 года.*
*Штаб Галоўны Аддзел II.*
*Л. 326 33/Охр.Ті.*
*Тел.унутр.282-20.*
*Фірмы “Агахель” і “Ольза —*
*справа пераноса да КАП.*

*Сакрэтна!*
*Міністэрства Унутраных спраў у Варшаве*
*На №. П.Б. 624/11.Тін/1938 23 лютага1938 года*
*і № П.Б.624/1Тін. 1937 ад 3 чэрвеня 1938 года пры вяртанні акта:*

*З вайсковага пункта гледжання няма перашкод для пераносу часткі прадпрыемстваў з тэрыторыі прыгранічча—(памежжа) да Цэнтральнага Прамысловага Округу.*

*З погляду, аднак, на тое, што:*

*а.) фірмы "Агахель" і "Ольза належаць да замежнага капіталу;*

*б.) генеральны дырэктар фірм, інжынер Самуіл Гомберг, мае погляд на сваё* "нявядомае" *мінулае, як і на звычайныя карупцыйныя метады абыходжання з людзьмі — хаця гэта нельга лічыць бясспрэчнай праўдай ;*

*в.) кіруючы персанал фірмы, у пераважнай большасці складаецца з нацыянальнай меншасці — пажаданым было б генеральнаму дырэктару "Агахель" і Ольза" камплектаваць кадры асобамі палітычна-надзейнымі і правесці грунтоўную кадравую рэарганізацыю фірмы ў накірунку яе* паланізацыі.

*Адзначым, што інжынер Гомберг прадставіў у Міністэрства Прамысловасці і Гандлю ў Дэпартаменце Промыслаў і Рамёсел справу не перанясення часткі прадпрыемстваў "Агахель" і "Ольза", а залажэнне яе ў КАП, з дапамогай капіталу тых таварыстваў наладзіць вытворчасць* алюмінія.

*Шэф ІІ-га Адддзелу Галоўнага Штаба, намеснік — майор Шалінскі.* ІІ Аддзел выдаў запіску аб Самуілу Гомбергу 28 лістапада1938 года. Не была яна пазітыўнай. Яшчэ адзін ліст:

*Варшава, 28 лістапада 1938 года*
*Аддзел П.Б.*
<u>*Сакрэтна*</u>

*Запіска <u>аб справе Самуіла Гомберга — фірма "Агахель".</u>*
*Інжынер Самуіл Гомберг, дырэктар фірмы"Агахель" у Мікашэвічах, ахоплены праектам астаноўкі, згодна інструкцыі XIV-ай.*

*Ліст шэфа Галоўнага штабу ад 28 красавіка1928 года характырызуе дзейнасць Гомберга як антыдзяржаўную.*
*Ліст КАП — Аддзелу Самастойнага Дазнання Пагранічнага ад 4 сакавіка 1932 года таксама характырызуе дзейнасць фірмы "Агахель" як падазроную.*
*Запіска атрымана з Міністэрства Замежных Спраў — 19 ліпеня1932 года, а таксама прадстаўляе дзейнасць Гомберга не ў карысным свеце.*

Паўторная справа С. Гомберга ўсплыла ў жніўні 1937 года, у сувязі з лістом ваяводы дэ Траммэкурт'а, аб магчымасці пераносу прадпрыемстваў у глыб краю. 28 студзеня 1937 года ў лісце, накіраваным (на пасяджэнне) Савета Міністраў, ваявода Палескі Костэк Бірнацкі выясняў справы аб прысваенні ордэна *"Залаты Крыж Заслуг"* Гомбергу (з маўклівага погляду ваяводы Палескага, хаця ж С. Гомберг столькі год пражыў на тэрыторыі Палескага ваявдства). Адасланая прапанова аб яго адзнацы засталася ў Камісарыяце рады ў сталічнным горадзе Варшаве, у Міністэрстве Прамысловасці і Гандлю. С. Гомберг быў *(у гэты час)* зарэгістраваны па вуліцы Хожэй, 29 /3 (ад 2 лістапада 1937 года). Усе акты яго справы былі накіраваны для азнаямлення II-му Аддзелу Галоўнага штаба. Штаб прыхільна паставіўся да магчымага перанясення дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў фірмы „Агахель" у глыб краю *(ліст ад 8 лістапада1938 года),* рашыўся (аднак) на негатыўную ацэнку (відавочна, яго дзейнасці?.. І.П.) С. Гомберг, падкрэсліваючы яго няўстойлівае далёкае мінулае і таксама яго "карупцыйныя метады" развіцця. II-гі Аддзел выказаўся за неабходнасць падтрымаць становішча галоўнага дырэктара, асобы, палітычна надзейнай, і адначасова *(у справе)* правядзенне грунтоўнай кадравай рэарганізацыі фірмы ў накірунку яе *паланізацыі.* Было заўважана таксама, што С. Гомберг не прадставіў у Міністэрства Прамысловасці і Гандлю справы аб перанясенні дрэваапрацоўчыў прадпрыемстваў да КАП, а адзіны праект заснавання таварыства па вытворчасці алюмінію, што было не адпаведна з яго першымі прапановамі.

Аб вышэй названым становішчы (ад) II-га Аддзела Галоўнага Штаба было пастаўлена ў вядомасць Міністэрства Прамысловасці і Гандлю, як і ўрад Ваяводскі ў Брэсце над Бугам. Нічога дзіўнага, бо 31 снежня 1937 года *Агульна-Палітычны Аддзел* Міністэрства Унутраных Спраў *(у агульным дакладзе)* выдаў запіску па справе С. Гомберга, у якой засталася змешчанай негатыўная думка ў справе ўзнагароджвання яго ордэнам *"Залатога Крыжа Заслуг"*.

*Аддзел Агульна-Палітычны. Агульны даклад.*

*31 студзеня1937 года*

*Запіска*

*Адзнакі (узнагароды)*

*Ваявода Палескі просіць пана Прэмьера аб адмене ўзнагароды (ордэнам) "Залатога Крыжа Заслуг" Гомберга. (Часопіс Польскі ад 11.XI.1937 года), таму што:*

*1.) Ваявода не выказваў сваю прапанову аб адзнацы, нягледзячы на тое, што Гомберг на працягу доўгіх гадоў пражываў пастаянна на тэрыторыі Палескага Ваяводства.*

*2.) Ваявода мае сур'ёзнае пярэчанне як да лаяльнасці, так і да маральнай вартасці Гомберга (*былы бальшавіцкі камісар, падазраваемы ў шпіянажы) *і выказваецца адносна яго (Гомберга) негатыўна.*

*На думку II Аддзела, справа патрабуе падрабязнага расследвання, з улікам шматлікіх абвінавачванняў, звязаных з падазрэннямі (быццам бы Гомберг неверагодна хітры тып, наносячы шкоду дзяржаве).*

*<u>2 экземпляры</u>*

*1.) Ліст дырэктара 1-га Дэпартамента*

*2.) Агульны даклад*

*1.) Камісар урада*

*2.) Запіска аб узнагародзе*

*З вышэй напісанай (запіскі) была яшчэ іншая (з Міністэрства Унутраных Спраў), у справе надання Гомбергу польскага грамадзянства.*

*<u>Сакрэтна.</u> Варшава, 3 сакавіка 1938 года*

*<u>Запіска інфармацыйная</u>*

*На другараднасць справы фірмы "Агахель" і "Ольза" у Мікашэвічах.*

*I. Па прачытанню актаў справы не перанясення фірмы "Агахель" і "Ольза" у Мікашэвічах паўстае пытанне<u>, ці не занадта хутка і лёгка дырэктар той фірмы</u>, Самуіл Гомберг, з Лунінецкага павету, <u>атрымаў польскае грамадзянства</u> ў сталічным горадзе Варшаве ў 1929 годзе*

*У выступленні дакладчыка было сказана аб правядзенні расследвання праз Бюро Інспекцыі Міністэрства Унутраных Спраў.*

*Колумус*

У той жа запісцы С. Гомберг атрымаў ліст падтрымку ад гандлёвага дарадчыка пасольства Рэчы Паспалітай *(Рэспублікі Польшча)* у Бруселі Л. Літвінскага.

*Брусель, 14 лютага 1938 года*

*29 Авеню дэс Гаўлоіс*

*Пасольства Рэспублікі Польшча ў Бруселі*
*Пану Дырэктару Самуілу Гомбергу*
*Мікашэвіцкага прадпрыемства “Ольза”, вуліца Ясная 11.Варшава*
*Пацвярджаем атрыманне ліста пана дырэктара ад 8-га дня бягучага месяца, а таксама матэрыялаў, накіраваных у адміністрацыю I-ай інстанцыі на прадмет распаўсюджвання фальшывых чутак.*

*Маем намер у бліжэйшы час выехаць на месяца, каб, зыходзячы са службовых абавязкаў і карыстаючыся нашымі магчымасцямі, праясніць сітуацыю і палажыць канец шкоднай акцыі.*

*(...) Л. Літвінскі. Гандлёвы саветнік.*

*У выніку скрупулёзных даследванняў не ўдалося высветліць, чым закончылася гэтая справа. Невядома, ці пацвердзіла следства II-га Аддзела W.P., а таксама іншыя ўлады, справядлівасць абвінавачвання інжынера Гомберга. Ці на самай справе яго патрэбна было зволіць з пасады дырэктара фірмы “Агахель” і “Ольза”? Ці мог Гомберг быць камуністычным агентам? А можа ён быў нявінным чалавекам? І адзінай мэтай яго было развіццё гаспадаркі на карысць Рэчы Паспалітай Польскай, тады яму патрэбна спачуваць?! Можа ён стаў ахвярай гіганцкай інтрыгі, “маскі” якой былі ў найвышэйшых кіруючых органах улады Рэчы Паспалітай Польскай?.. Гэта сведчыла б аб паспяховасці праціўнікаў Гомберга, якія змаглі адпаведна “настроіць” паліцэйскія следчыя службы. Сярод тых, хто выступаў супраць Гомберга, былі асобы, якія насілі расійскія прозвішчы, напрыклад: Ярушев, Репухов. Адным з абвінавачванняў (Міністэрства Унутраных Спраў) было затармажэнне “паланізацыі” фірм “Агахель” і “Ольза”. З’яўляецца тут Дзмітрый Філосафаў, які ў гэтай справе постаць пазітыўная*

*На Мікашэвіцкім прадпрыемстве працавала шмат расіян, маем, аднак, падазрэнні, што Гомберг мог блытаць расіян з беларусамі, (наклейваючы беларусам* ”этыкеткі” *расіян). Невядома, як закончылася паліцэйскае следства па гэтай справе. Мажліва, што з пачаткам вайны яно было не закончана. Пасля 1945 года мала хто аб ім памятаў, акрамя, можа, жыхароў Мікашэвіч (у наш час — Брэсцкая вобласць, Лунінецкі раён, Рэспубліка Беларусь), што перад другой Сусветнай вайной працавалі на прадпрыемстве Гомберга…*

